Валянцін
ЛУКША

# АГОНЬ І ПОПЕЛ

Драматычныя паэмы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1989

ББК 84Бел7
Л 84

Новый сборник Валентина Лукши составили две драматические поэмы-хроники. Первая «Огонь и пепел» посвящена легендарному герою гражданской войны, нашему земляку В. М. Азину.

Вторая — «Подснежники для Веры» — славной дочери белорусского народа, Герою Советского Союза В. З. Хоружей.

В произведениях раскрываются образы несгибаемых коммунистов-ленинцев, их сокровенные мечты о счастье народа, их вера в торжество справедливости и добра.

Л $\frac{4702120203-004}{М\ 302(03)-89}$ 54—89

ISBN 5-340-00199-7

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

**Азін Уладзімір Марцінавіч** — начдыў 28-й.

**Янка**, **Алеся** — прыёмныя дзеці Азіна.

**Карл Стэн** — ардынарац Азіна.

**Севярыхін**, **Чэвераў** — камандзіры палкоў Азінскай дывізіі.

**Шорын** — камандуючы Другой арміяй.

**Гусеў**, **Штэрнберг** — члены Рэўваенсавета Другой арміі.

**Калпакоў** — камандзір атрада.

**Ганіхін** — камбрыг.

**Паўлаў** — камандуючы Дзесятай арміяй.

**Тэлеграфіст.**

**Стары.**

**Старшыня губкома.**

**Жанчына**, **Мужчына** — члены губкома.

**Палкоўнік**, **Капітан**, **Паручнік** — белагвардзейцы.

**Салдат.**

**Начальнік заставы.**

*Час дзеяння — грамадзянская вайна.*

Мы павінны перамагчы не толькі дзеля нас саміх, але і дзеля нашых дзяцей і ўнукаў.

*У. М. Азін*

## Пралог

Ва ўрачыста-трывожную музыку ўрываецца подых завеі. Вецер лютуе, вые, быццам гайня. Чутны перарывісты піск марзянкі. Промень пражэктара высвечвае куток штаба Чырвонай Арміі.

Стол. За апаратам — салдат-тэлеграфіст. Па пакоі таропка ходзіць камандарм Дзесятай Паўлаў.

Паўлаў

Як цяжка здабываецца свабода!
Дваццаты год, а ўсё вайна, вайна...
У вас, тэлеграфіст, усё гатова?

Тэлеграфіст

Так!.. Слухаю, таварыш камандарм!

Паўлаў

Давайце!.. Камандарм Дзесятай Паўлаў...
*(Нахіляецца да салдата.)*
Уважліва сачыце за ключом!..
Такіх балючых тэлеграм і горкіх
Яшчэ ніколі я не дыктаваў...
*(Цяжка ўздыхае.)*

«У баі 17 лютага 28-я дывізія, ахвяруючы сабой, затрымала значную частку конніцы Мамантава і іншыя, у многа разоў перавышаючыя іх сілы, наносячы праціўніку цяжкія страты. Дывізія выйшла з бою ў складзе 160 штыкоў і 174 шабляў. Уся артылерыя дывізіі вывезена без страт. Усе кулямёты, за выключэннем двух сапсаваных, вывезены. Страчана 60 вёрст кабелю...»

Паўлаў падыходзіць да стала, налівае ў шклянку ваду, п'е. Ходзіць па пакоі. Зноў дыктуе.

«Загінулі або ўзяты ў палон *(Паўлаў спыняецца каля стала)* доблесны начдыў Азін, ваенкомы 249-га і 247-га палкоў. Камбаты 251-га, 248-га і 249-га палкоў, камроты, за выключэннем аднаго з 250-га і аднаго з 251-га палкоў, загінулі. Астатні камсастаў цэлы...

Дакладваючы аб вышэй пададзеным, Рэўваенсавет Дзесятай арміі хадайнічае аб пасылцы непрыяцельскаму камандаванню радыёграмы з запытаннем аб лёсе Азіна і папярэджаннем, што ўсялякі гвалт над Азіным выкліча адпаведныя рэпрэсіі над першымі дзесяццю афіцэрамі ў чыне палкоўніка і вышэй, якія будуць захоплены ў палон». *(Паўлаў задумваецца, адыходзіць ад стала.)*

Т э л е г р а ф і с т

Усё перадаў я...

П а ў л а ў

Усё? Ды каб жа так!
А боль, а сум? Ці ж гэтак лёгка ведаць,
Што мужны сябра кінуты на здзек?!
Як сэрца за цябе, начдыў, баліць,
Хоць ведаю, такіх, як ты, не зломяць!
Так, ведаю... Але гарыць душа,
Калі ўяўлю я тыя катаванні...
Не здрадзіць праўдзе доблесны начдыў.

Святло гасне. Урачыста-трывожную музыку зноў змяняе выццё завеі. Праз вецер ледзь чуецца трэньканне гітары. Пражэктар высвечвае куток штаба белякоў. Над сталом, застаўленым пітвом, схіліўся сівы белагвардзейскі П а л к о ў н і к. Асалавелы К а п і т а н, седзячы на канапе, кратае струны, спявае, ледзь варочаючы языком.

К а п і т а н

Колокольчик однозвучный,
Крик протяжный ямщика,
Зимней степи сумрак скучный,
Саван неба, облака!
И простертый саван снежный,
И холодный труп земли!
Вы в какой-то мир безбрежный
Ум и сердце занесли!

З калідора даносіцца тупат салдацкіх ботаў, несуладныя выкрыкі: «Вядуць!», «Азіна вядуць!», «Чырвонага камандзіра злавілі!», «Ага-а-а, папаўся!» Сівы Палкоўнік падхопліваецца ў крэсле, быццам яго ўкалолі. П'яны Капітан адкладвае гітару. С а л д а т і П а р у ч н і к уводзяць параненага, знясіленага А з і н а.

Палкоўнік

Паранены?.. Такі герой?..
Ды што ж вы?!
Ўрача!.. І дапамогу аказаць!..

(Салдат і Паручнік выходзяць.)

Даўно я марыў аб такой сустрэчы.
Прашу садзіцца госця...

Азін

Пастаю...

Палкоўнік

Ды што вы... Праўды у нагах няма.
Пагутарым, як жыць далей на свеце.

Азін

Нам гаварыць няма пра што.

Палкоўнік

Дарма.
Вы малады... Вам жыць яшчэ ды жыць.
Дамо вам адпачыць пасля дарогі,
Падлечым і накормім. А тады
Агульную знайсці памкнёмся мову.

Азін *(з агідаю)*

Не стройце дурня!.. Перад вамі — Азін!
Так што загад аддайце — расстраляць!

Палкоўнік

Зноў на штыкі! Дзеля чаго, навошта?
Вы малады... Наперадзе — жыццё.
Ад вас зусім нямногае патрэбна —
Каб да байцоў звярнуліся сваіх.
*(Павышае голас.)*
Здавацца час на літасць пераможцы!..

Азін *(пагардліва)*

Хто пераможца? Вы ж слімак! Няўжо
Ў такое самі верыце, палкоўнік?

Палкоўнік

Напішам і без вас... Факсіміле
Паставім спраўна пад зваротам, верце!

Азін

Мне вас шкада, палкоўнік.

Палкоўнік

Што ж, тады...
Даставяць заўтра нашы самалёты
Лістоўкі на ўзбярэжжа Маныча...

Азін

Вы гнюсны чалавечак, пан палкоўнік...
І на такіх трымаўся царскі трон?!
Вы можаце забіць мяне, знявечыць,
А здраднікам не зможаце зрабіць,
Бо выкаваны я з таго металу,
Які не зломяць холад і агонь.
Я мала, але ў той жа час багата
Прайшоў сваёю сцежкай па зямлі.
У сэрцы нёс я ленінскую праўду,
Да кроплі аддаваўся барацьбе.
Ды аб адным шкадую сёння горка,
Што мала знішчыў ворагаў такіх,
Што поўзае ўсё ж па зямлі савецкай
Такая погань...

Палкоўнік

Бог мне сведкам быў —
Падараваць хацеў жыццё герою.

Азін

Ад вас я падарунка не прыму!
Я — Азін! Расстраляйце неадкладна!

Палкоўнік

Што?.. Расстраляць?..
А ці не надта проста
Вы разлічыцца марыце з жыццём?
Паручнік!..
*(Убягае Паручнік.)*
Разбярыцеся з палонным!
*(Паручнік выводзіць Азіна.)*
Размову мы працягнем, і не раз...

Азін *(азіраецца)*

Размовы ўсе завершыць перамога.
Кастрычнік немагчыма вам спыніць...
Мы верныя яму, як бацьку дзеці.
Мы парасткі надзейныя яго.

# Частка першая

## 1

Вяцкі губернскі камітэт партыі бальшавікоў. За сталом, накрытым чырвоным паркалем,— кіраўніцтва губкома. Крыху воддаль, на табурэце, засяроджаны, падцягнуты малады чалавек у вайсковай форме. Твар мужны, рухі хуткія. Гэта — камандзір зборнай роты Азін. Старшыня губкома — немалады мужчына ў скуранцы, перахопленай партупеяй,— устае, стукае алоўкам па стале. Азін падхопліваецца, засяроджваецца.

Старшыня губкома

Таварышы!.. Працягнем пасяджэнне!
*(Кашляе ў кулак.)*
Тут самы час пра Азіна сказаць...
Мы камандзіра зборнае камроты
Усе выдатна ведаем... Дык вось...
Тры дні таму атрад байцоў чырвоных,
Які павёў на небяспечны бой
Наш сённяшні герой таварыш Азін,
Эсэраў вокамгненна перабіў.
Ён, справе рэвалюцыі адданы,
Давер салдат і славу заслужыў...
Але парадак ёсць для ўсіх парадак.
Няхай раскажа Азін пра сябе...

Член губкома (жанчына)

Цікава біяграфію паслухаць...

Член губкома (мужчына)

Чаму у васемнаццатым да нас?..

Член губкома (жанчына)

І чым да рэвалюцыі займаўся?..

Азін *(устае)*

Я — ураджэнец Віцебскай губерні.
Дакладней, палачанін, сын краўца,
У вёсачцы Мар'янава маленькай
Мы ў хаце бедных матчыных братоў
Жылі... І мелі толькі... Толькі рукі
Ды швейную машыну «Зінгер». Вось
І ўсё багацце бацькі. Ён нямала
У Прыддзвінскім краі вёсак абхадзіў.
Каму кажух, каму армяк пашые —
Тым і карміўся. А пазней... Пазней
Павёз сям'ю ў Карабінчы. Там школа
Маленькая прыходская была...
Кавалачак зямлі арандавалі.
Я статак пасвіў... Хату прыбіраў...
Пасля мяне ў вучылішча у Полацк
Марцін — мой бацька —
ледзь уладкаваў...
Вучыцца ў семінарыі далей
У Обалі я вельмі шчыра марыў,
Каб вырасці настаўнікам... Дарма —
Для бедняка там не знайшлося месца,
Хаця экзамен вытрымаў на «пяць»...
Да дзядзькі ў Рыгу бацька адаслаў,
У гушчыню рабочых дэманстрацый,—
І многае тады я зразумеў...
А зразумеў, што ў свеце шмат няпраўды,
Ёсць фабрыканты і галодны люд,
Што, калі пойдзеш супраць, без работы
Застацца можна, як застаўся я...
Зноў Полацк... Выпадковыя заробкі...
І падалося — не капейкі я
Падлічваю, бухгалтар у «Саюзе
Чырвонага Крыжа»,— цану крыві!
Сказаў начальству ў вочы ўсё,
што думаў...

І зноў — канец! У армію пайшоў...
Смаленск і Дзвінск...
Спазнаў хрышчэнне боем!
У Вятку ў васемнаццатым папаў...
Кастрычніцкі чырванакрылы вецер,
Паволжа абудзіўшы, разбудзіў
Там контррэвалюцыю. У Вятцы
Бальшавікі рашэнне прынялі
Стварыць губернскі першы батальён...

Старшыня губкома

Пра ўсё, што вамі зроблена у Вятцы,
Вядома у губкоме да драбніц...
Як вы, рэўбатальён стварыўшы, потым
Крышылі белякоў?..

Азін

Не я адзін...
Тут Севярыхін болей варты славы.

Севярыхін *(сумеўшыся)*

Я што... Парадай толькі дапамог...

Азін

Не «толькі»...
А вайсковы важкі вопыт!..

Севярыхін

Дык трэба ж... Бо інакш бы ўсім —
канец.

Азін

Вось іменна... Таму пры ўсіх я дзякуй
Хачу яму па шчырасці сказаць...
Гатовы з ім ісці хоць на край свету,
Гатовы ў пекла...

Севярыхін

Я таксама. З ім...

Старшыня губкома

Магчымасць вам надарыцца такая —
Як мне вядома, губваенкамат
Аддаў загад адносна камандзіра
Рэўбатальёна Ўральскага палка.
Ім будзе — Азін!..

Галасы адабрэння:

«Вось гэта — камандзір!», «Малады, ды не зялёны», «Такія рэвалюцыю ў крыўду не дадуць!».

А намеснік — вось ён.
Ім будзе Севярыхін!..
*(Воплескі адабрэння.)*
Да таго ж
Наш першы батальён выходзіць заўтра
У баявы паход... Усходні фронт...
*(Зноў воплескі.)*
Але мы не сказалі аб галоўным...
Да Азіна пытанні ёсць яшчэ?..

Член губкома (жанчына)

Жыццёпіс расказаў ён на «выдатна»
І як у рэвалюцыю прыйшоў...

Член губкома (мужчына)

Усё тут ясна — перад намі воін,
Змагар — крыштальна чысты чалавек!

Старшыня губкома

Дык ёсць яшчэ да Азіна пытанні?

Севярыхін

Ёсць прапанова: ў партыю — прыняць!

Старшыня губкома

Прагаласуем... Так... Аднагалосна...
Таварыш Азін, шчыра, ад душы
Віншуем вас з выдатнаю падзеяй...

Азін

Падзеяй самай важнай для мяне.
Я праз гады прайду з бальшавікамі,
Каб вераю і праўдаю служыць
Радзіме і народу. Гэтай мэце
Я прысвячу усё сваё жыццё!

Дружныя воплескі членаў губкома.

## 2

Стромы рачны бераг. Каля паромнай пераправы, моцна прытуліўшыся адзін да аднаго, сядзяць знясіленыя бежанцы-падлеткі Янка і Алеся.

Алеся *(цяжка ўздыхае)*

Як там, у нас на Беларусі, Янка?
Я думаю...

Янка *(па-даросламу сур'ёзна)*

Лютуе немчура...
Зжыла са свету многіх...

Алеся

Божа-божа...
За што такое гора нам?.. За што?..

Янка

Звяруга, ён заўсёды і звяруга.
Яму, каб слёзы... Каб лілася кроў...

А ты пакінуць не хацела Полацк...
Ўсё плакала — куды у белы свет?..

А л е с я

Я і цяпер, успомню ўсё — і плачу.
Скажы, куды падацца нам з табой?
Загінем, беспрытульныя...

Я н к а *(цвёрда)*

Нічога...
Дзяцей Саветы ў крыўду не даюць.
А тут — Саветы...

А л е с я *(пазяхае)*

Бульбачкі б... ці хлеба...

Я н к а

І ад нішчымнай стала б весялей...
Ды толькі дзе цяпер ты возьмеш бульбы?..
Лепш заспявай, Алеська, заспявай.
Калі спяваеш — голад меней душыць
І на душы становіцца цяплей.

Янка ціха заводзіць песню. Алеся выцірае прыполам слёзы, падцягвае.

Ой, рана на Йвана,
Проці Йвана ночка мала.
Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана...

З неразлучнай люлькай у зубах паяўляецца С е в я р ы х і н. Ён спыняецца, прыслухваецца да беларускай, не знаёмай яму мовы, штосьці згадвае. І калі песня ўрэшце аціхае, пакашлівае ў кулак.

А л е с я *(палахліва)*

Ой, дзядзечка!

Я н к а *(засланяе сабой Алесю)*

Алесечка, не бойся!

С е в я р ы х і н

Вы хто такія будзеце?.. Адкуль?..
І тут навошта?..

А л е с я

З Янкам мы...

Я н к а

Здалёку...

С е в я р ы х і н

Канкрэтней, калі ласка. І хутчэй!
З якога краю?

А л е с я

Дзе Дзвіна бруіцца...

Я н к а

І сосны дакранаюцца да хмар.

С е в я р ы х і н

Вы з Поўначы?

Я н к а

Мы, дзядзька, з Беларусі...

С е в я р ы х і н

Што ж прывяло вас у далёкі край?

А л е с я

Скарынку хлеба, дзядзечка, шукаем.

Я н к а

Скарынку. І прытулак на зіму.

С е в я р ы х і н

Ды дзе ж той хлеб?
І хто вам дасць прытулак?
Ідзе вайна... Цячэ людская кроў...

А л е с я

Паверце нам, мы б гэтак ваявалі,
Каб нас з сабой чырвоныя ўзялі...

Я н к а

І ў войска запісалі...

А л е с я

Хоць на трохі...
Ці ж гэта цяжка — ў войска запісаць?

С е в я р ы х і н

Не многа захацелі, малалеткі?..
Мы высветлім спачатку, хто паслаў
Сюды вас...

А л е с я

Высвятляць пра нас не трэба.
Мы — бежанцы.

С е в я р ы х і н

А дзе бацькі? Чаму вы тут без іх?

А л е с я

Маіх нямчур застрэліў...

Я н к а

А маіх жывымі ў хаце белякі спалілі:

Ці не знайшлі параненых байцоў,
Якіх лячыла мама на гарышчы?!.
Я ў лесе коней пасвіў... Дым заўважыў,
Вярнуўся — галавешкі, попел там...
*(Выцірае слёзы.)*

Севярыхін *(скрозь зубы)*

Звяры! Звяры!..

Янка

Тады вось я пакляўся
На папялішчы,— помсціць
за бацькоў...
І помсціць за Алесьчыных таксама...

Севярыхін

А дакумент, хаця які, пры вас?

Алеся і Янка недаўменна пераглядваюцца. Нечакана выходзяць Азін і Калпакоў. Севярыхін паспешліва бярэ пад казырок.

Севярыхін

Ля рэчкі незнаёмых затрымаў...
Папер ніякіх пры сабе, аднак жа...

Азін

Адкуль ім, Севярыхін, быць, паперам?

Севярыхін

Лазутчыкі, магчыма... Час такі...

Азін *(з усмешкай)*

Лазутчыкі?..

Калпакоў

Не верыцца мне штосьці...

Севярыхін *(апраўдваючыся)*

Ў іх лахманы ды песня за душой.

Азін *(зацікаўлена)*

Што, песня?.. Самы час яе паслухаць.

Севярыхін *(строга)*

Ану, давайце пра свайго Івана!
Сам Азін вам загадвае спяваць!..

Азін

Прашу, а не загадваю... Спявайце...

Алеся *(крыху павагаўшыся, спявае)*

Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана...

Янка *(падхопліваае)*

Проці Йвана ночка мала.

Азін *(шырока ўсміхаючыся, падхопліваае)*

Ой, рана на Йвана,
Ой, рана на Йвана...

Уваходзіць ад'ютант Азіна Карл Стэн.

Стэн *(падае Азіну пакет)*

Таварыш камандзір! Вам тэрмінова
Прасілі перадаць...

Азін *(раскрывае пакет)*

Загад?
*(Севярыхіну і Калпакову.)*
Прашу са мной.
*(Стэну, паказваючы на Янку і Алесю.)*
А ты бяры «лазутчыкаў». Іх трэба
Уладкаваць, памыць і накарміць...

Калі **Азін**, **Севярыхін** і **Калпакоў** выходзяць, Стэн разгублена глядзіць на дзяцей.

Стэн

Так... Вымыць, накарміць
хоць і няпроста,
Ды можна... Ну, а як уладкаваць?

Янка

Вы нам заданне дайце.

Стэн

Вам? Аднак
Такой каманды мне не паступала.

Янка *(цвёрда)*

Нас абяцалі ў войска запісаць...
Лазутчыкамі...

Стэн *(збіты з панталыку)*

Трэба тут падумаць...
*(Гукае.)*
Разведчыкі!.. Гэ-эй, Манькін!

Выбягае **Салдат-разведчык**.

Разведчык

Тут... Ча-во-о?..

Стэн *(паказвае на дзяцей)*

Вось — папаўненне.
Забірай, разведчык,
Ад Азіна. Карміць, паіць як след...
Адзець, абуць... Іх быццам абяцалі
Да вас накіраваць...

Разведчык

Што ж, забяру...
Разведчыкаў зрабіць з іх — гэта можна.
Куды складаней вось — абуць, адзець...
Гайда за мной!

Разведчык з бежанцамі выходзяць. Стэн пэўны час глядзіць ім услед, потым таксама выходзіць.

## 3

Азінскі штаб — чыста прыбраная вясковая хата. За сталом — Севярыхін і Азін.

Азін *(складвае атрыманы праз Стэна загад)*

Што скажаш, друг?

Севярыхін *(памаўчаўшы)*

Віншую ад душы!
Камандуючы Арскай групай войск!..
Сур'ёзную даверылі задачу.
Лічы, што атрымаеш тры палкі.
Ды групу нарадзіць і скласці трэба...
Снарадаў і вінтовак — з гулькін нос.

Азін *(раскрывае карту)*

Цяпер важней — прызначыць камандзіра.
А там — людзей прыгледзім і смялей
За справы... Час гарачы, не чакае...
Хутчэй узяць Казань —
вось з солі соль.
А прамарудзіць, як гаворыць Ленін,
Падобна смерці... Толькі як узяць?
Не пералічыш цяжкасцей сягоння...

С т э н *(уваходзячы, Азіну)*

Таварыш камандзір!.. Абед гатовы.
Вы нагадаць прасілі...

А з і н

Дзеці як?

С т э н

Накормлены-напоены. Парадак!
Да белякоў адпраўлены ўжо ў тыл.
Лазутчыкамі... Так, як вы казалі...

А з і н *(строга)*

Я?.. Не прыпомню...

С т э н *(вінавата)*

Гэта дзеці мне,
Спаслаўшыся на вас... Ці падманулі?

А з і н

Пад арышт вас. На трое сутак!

С т э н

Ёсць!

*(Выходзіць.)*

А з і н

Не, пачакайце!..
*(Задумваецца.)*
Дзяцей паслалі вы амаль на смерць.
Заўчора белякі мянялі часці.
Тут, перад намі, афіцэрскі полк.
Ў яго распалажэнне не прабрацца,
Пасты кругом. І незнаёмых там
Расстрэльваюць на месцы без разбору...
Але ў разведку трэба нам ісці,

Калі сцямнее... Стэн ідзе са мною.
Ты, Севярыхін, крышку падстрахуй.

Севярыхін

Вы ў тыл?.. Але ці можа камандзір
На рызыку ісці?

Азін

Адказны момант!
Даўно збіраўся я. І вось цяпер
Той час прабіў... Нам наступаць няможна,
Пакуль усё не высветлю як след.

## 4

Ноч. Шапаценне дажджу. Чутны голас вартавога: «Стой! Хто ідзе?» У адказ — голас Азіна: «Сібірцы, чорт пабяры! Штабс-капітан Дзянісаў прыбыў уласнай персонай з распалажэння чырвоных. Гэ-эй, пасвяціце хто-небудзь, я паранены!»

Успыхвае святло. Леснічоўка. Тут размясцілася застава белых. На лаўцы — Начальнік заставы. Каля печы — Тэлефаніст. Абодва насцярожана прыслухоўваюцца да галасоў на вуліцы. Расчыняюцца дзверы. Прыкульгваючы, у пакой уваходзіць Азін. Ён у мужыцкім адзенні. За ім увальваюцца унтэр-афіцэр з наганам і двое салдат з вінтоўкамі.

Начальнік заставы *(грозна)*

Ты хто такі?

Азін

Паручнік, загадайце,
Каб распранулі...
Ух, стаміўся, чорт...

Ледзь улоўным жэстам Начальнік заставы загадвае дапамагчы незнаёмаму. Салдаты сцягваюць з яго армяк, шапку. Сам Азін зрывае бараду — усе бачаць чалавека ў форме капітана.

Начальнік заставы

Для рэбусаў не час...

Азін

Так. Ух, жывёлы...
Забыліся вас папярэдзіць... Тут,
Калі ішоў туды, былі сібірцы.
Кірыла Лобаў... Выпадала чуць?

Начальнік заставы

На слова я не маю права верыць.
Пасведчанне пры вас?

Азін *(штурхае з табурэткі Тэлефаніста, садзіцца)*

Але ж, але ж...
З дывізіяй звяжыцеся, паручнік,
І перадайце, што Дзянісаў тут.
Вам растлумачаць, што і як... Гарбатай
Вы госця не маглі б пачаставаць?

Начальнік заставы

Прыспешваць нас не трэба.

Жэстам загадвае Тэлефаністу звязацца з дывізіяй. Азін пазірае на гадзіннік.

Тэлефаніст *(трывожна)*

Сувязь знікла.

Але ў гэты момант тэлефон зноў ажывае. Тэлефаніст уважліва слухае, перадае трубку Начальніку заставы.

Начальнік заставы

Паручнік Юр'еў!.. Слухаю!.. Ён тут.
Вось толькі прыкялі. Так. Зразумела...

Ало!.. Ало!.. Не чую!.. Што?.. Ало!..

*(Сабе.)*

Не разумею. Гук як з падзямелля.
Падобна на абрыў.

*(Тэлефаністу.)*

Ідзі правер.
Яўсееву скажы, каб даў салдата.

(Т э л е ф а н і с т выбягае.)

А з і н

Хто гаварыў?

Н а ч а л ь н і к з а с т а в ы

Ён зараз будзе тут.
А вы ўсё ж хто?

А з і н

Камандуючы Арскай групай Азін!
Мо чулі?

Н а ч а л ь н і к з а с т а в ы

Вы жартуеце, дзівак.

А з і н

А вам, паручнік, зараз не да жартаў.
Бо не адзін у госці. Я прывёў
З сабой яшчэ дзесятак дэзерціраў
Для папаўнення арміі... Хутчэй
Прывесці загадайце...
Небяспечна —
А раптам разбягуцца. Іх цяпер
Пільнуе мой дзяншчык. Гукніце:
«Поўнач!»
Яны ля кулямётнага гнязда.
Там тры сасны і ціхая лагчынка...

Начальнік заставы *(унтэр-афіцэру)*

Знайсці людзей! Ахову ўзяць! Жвавей!

Унтэр-афіцэр выбягае.

Азін

Паслалі ранкам мы сюды дзяцей.
Пра гэта думаў цэлы дзень, баяўся —
Нарвуцца на сакрэт...

Начальнік заставы

Так і было.
Сядзяць цяпер, як птушачкі, у пуні.

Азін

Дапытвалі?

Начальнік заставы

Вядома ж... Ды маўчаць!

Чутны шум, крыкі.

Азін

Вядуць мой зброд. Я ад душы, паручнік,
Прашу мякчэй, лагодней гаварыць.
Памылку зразумелі ўсе салдаты...

Адчыняюцца дзверы, уваходзяць дужыя, як на падбор, салдаты.

Начальнік заставы *(выхоплівае наган)*

Хто, дурні, дазваляў сюды ісці?

Уваходзіць Стэн у форме белагвардзейскага афіцэра. Ён вядзе Тэлефаніста з кляпам у роце, звязанага і абяззброенага. Як па камандзе салдаты абяззбройваюць белякоў.

Азін

І не шумець, паручнік. Тут, навокал,
Мае салдаты... Аддавай загад
Дзяцей сюды даставіць. Ну, а потым
Разыдземся... Я падару жыццё,
Калі ўсё будзе зроблена сумленна.
Твой ход, паручнік. Ну, смялей,
смялей!..

Унурыўшы плечы, Паручнік ідзе да дзвярэй. На хвіліну спыняецца, азіраецца на азінскіх байцоў. За акном вые вецер. Хвошча дождж.

## 5

Штаб Другой арміі Усходняга фронту. 13 верасня 1918 года. За сталом — камандарм Васіль Іванавіч Шорын, члены Рэўваенсавета арміі Сяргей Іванавіч Гусеў і Павел Карлавіч Штэнберг.

Уваходзіць Азін.

Азін *(бярэ пад казырок)*

Па вашаму загаду...

Штэрнберг *(ласкава)*

Бачым, бачым...

Азін

Я — Азін.

Штэрнберг *(устае, паціскае Азіну руку)*

Павел Карлавіч Штэрнберг.
*(Да Гусева.)*
Вось — Рэўваенсавет. Таварыш...

Г у с е ў *(паціскае Азіну руку)*

Гусеў.

Ш т э р н б е р г *(да Шорына)*

Таварыш Шорын.

Ш о р ы н *(паціскае Азіну руку)*

Шорын.

Ш т э р н б е р г

Камандарм.

Ш о р ы н *(усім)*

Сядайце!.. Ёсць сур'ёзная размова...
Магчыма, Павел Карлавіч пачне?

Ш т э р н б е р г

Не перабольшу — гэтай перамогай
Упішацца ў гісторыю Казань.
Дый наш Усходні фронт!
Што ж, перамога —
Выдатная для Арскай групы войск...
Для Правай Арскай... Я удакладняю,
Бо камандзір — прысутны.
Рэўваенсавет байцам і камандзірам
Арскай групы
За гераізм падзяку абвясціў.
Рашэнне ЦВК і Саўнаркома
Сам Ленін са Свярдловым падпісалі.
Мы запрасілі вас, таварыш Азін,
Каб шчыры дзякуй выказаць за службу.
Вам і усім davераным байцам...

А з і н *(падцягваецца)*

Служыць гатовы чэсна і заўсёды!

Шорын *(паказвае Азіну сесці)*

Даўно ўжо Леніна трывожыла Казань,
Становішча на ўсім Усходнім фронце. .

Азін *(зноў прыўзнімаецца)*

Служыць гатовы...

Шорын *(працягвае)*

Так... І групу войск
Зрабілі вы армейскаю адзінкай...
І вы, і Севярыхін шмат байцоў,
Што ворагу намерваліся здацца,
Вярнулі ў строй чырвоных змагароў.

Штэрнберг

Мы сёння добра ведаем «сакрэт»,
Чым вы байцоў бярэце за жывое:
Адных — перакананасцю сваёй,
Другіх — сваёй жалезнай сілай волі,
А трэціх — талентам сардэчна
клапаціцца
Пра кожнага з байцоў! Ці ж мала гэта?
*(Дастае з папкі аркуш паперы.)*
Чытаю з захапленнем ваш загад.
Прыгожа! Крута! Слава камандзіра
Пра вас паўсюдна добрая ідзе...
Белагвардзейцы гэта ацанілі —
Такі калым за вашу галаву!..

Азін *(цвёрда)*

Але ж бальшавікі не прадаюцца!

Гусеў

Так... Правільна...
На ўвесь Усходні фронт
Прайшоў салдацкі погалас, што Азін

Сюды самім пасланы Ільічом.
Не даражыць такім даверам нельга...

А з і н

Усё жыццё ім буду даражыць!

Ш о р ы н

І, менавіта, гэта паслужыла
Падставаю — вас запрасіць у штаб...
Усё ж няспелы ваш ваяцкі вопыт,
Дый камандзірскі невялікі стаж.
Пара вам партызаншчыну пакінуць,
Загады трэба чотка аддаваць.

А з і н *(разгублена)*

Вы гэта ўсё гаворыце сур'ёзна?

Ш т э р н б е р г

Сур'ёзна.

Ш о р ы н

Як партыйцы.

Г у с е ў

Ад душы.

А з і н

Н-не разумею...

Ш о р ы н

Калі жалезны ў арміі парадак,
Бяспека ўсёй краіны — на замку...

А з і н *(узрушана)*

Выходзіць так: усе вы за парадак,
А Азін — з партызаншчынай хаўрус?

Штэрнберг

У арміі паўсюдна ўмацаванне —
Давайце з дысцыпліны пачынаць.

Азін

Дакладней — з дысцыпліны камандзіраў.

Шорын

Так... Камандзіраў — ў першую чаргу.

Азін

Складаная размова пачалася...
Раней быў Азін прыкладам для ўсіх,
Цяпер — бяльмо на воку...
Партызаншчык!..

Шорын

Ніхто заслуг у вас не адбіраў.
І не збіраўся...

Штэрнберг

Шчыра кажам.

Шорын

Толькі...

Азін *(перабівае)*

Начальству сёння я не па душы.
Так ці не так?

Шорын

У чымсьці так.

Азін

Гаворку
Тады навошта доўгую цягнуць?

Шорын *(цёпла, па-бацькоўску)*

І зноў вы гарачыцеся...

Азін

Не трэба,
Як школьніка, паблажліва ўшчуваць!

Штэрнберг

І ўсё-ткі гэта на карысць — навука.

Азін *(устае, ідзе да дзвярэй)*

Магчыма... Толькі форма — не па мне.

Гусеў *(ціха Шорыну і Штэрнбергу)*

Не трэба ўсё ж, таварышы, так рэзка...
Хвароба росту гэта... І не больш...
Таварыш Азін!

Азін

Слухаю!

Гусеў *(падыходзіць да Азіна, кладзе руку на плячо)*

Віншую!.. Па арміі рыхтуецца загад, якім вы прызначаецеся начальнікам Другой зводнай дывізіі... Адной з сарака дывізій, што ствараюцца для абароны рэспублікі Саветаў...

Азін *(здзіўлена)*

Начальнікам? Мяне? Пасля ўсяго?

Гусеў *(паціскае Азіну руку)*

Віншую вас.

Азін *(падцягваецца)*

Служу зямлі Саветаў!

Ш т э р н б е р г *(паціскае Азіну руку)*

І я віншую. Шчыра, ад душы...

Ш о р ы н *(паціскае Азіну руку)*

Мы паваюем шмат і... пасябруем...

А з і н *(з удзячнасцю)*

Так, будзем ваяваць і сябраваць!

## 6

Вясковая раніца пачынаецца галасістым крыкам пеўня. Каля ганка — малады С а л д а т з вінтоўкай. З хаты, у якой размясціўся штаб, таропка выходзіць А з і н. Салдат выцягваецца перад камандзірам. З-за фіранкі выглядваюць Я н к а і А л е с я, прыслухваюцца.

А з і н *(салдату)*

А-а, гэта ты? Пазнаў, стары знаёмы.
Дык гэта ты учора ў «малако»
На стрэльбішчах ганяў за куляй кулю?

С а л д а т *(сумеўшыся)*

Але... Було... Таварышу начдыў...

А з і н *(дакорліваківае галавой)*

З такой стральбой не бачыць перамогі.

С а л д а т

Я выпраўлюся... Слова вам даю...

А з і н *(паказвае рукой удалячынь)*

Вунь, бачыш, слуп стаіць узбоч дарогі?

С а л д а т

Так, бачу...

Азін

З першай кулі пападзеш?

Салдат *(няўпэўнена)*

Старацца буду.

Азін

Ты бяры даказвай!

Салдат *(цэліцца, страляе)*

Зноў міма...

Паяўляецца Стары. Спыняецца каля ганка, прыслухваецца. Не заўважаючы госця, Азін дастае свой «кольт».

Азін

Вось глядзі цяпер.
*(Страляе.)*
Лічы!

Салдат

Ёсць раз!

Азін *(страляе)*

Лічы!

Салдат

Ёсць два!

Азін *(страляе)*

Лічы!

Салдат

Ёсць трэці!

А з і н

Вучыся гэтак ворагаў знішчаць,
Каб менш было паганцаў на зямлі!..

С а л д а т *(цвёрда)*

Таварыш Азін, я не падвяду!

Як толькі Салдат назваў прозвішча Азіна, незнаёмы С т а р ы адступіў за вугал і знік гэтак жа нечакана, як паявіўся.

А з і н

Павінен не падводзіць!
*(Гукае.)*
Ардынарац!

Выходзіць К а р л С т э н.

Ад Чэверава чутна што? І дзе
Сам камандзір?

С т э н *(пазірае на Салдата)*

Дакладваць?

А з і н

Так, дакладвай.

С т э н

Раскватараваны ўвесь атрад.
Дывізію ён папаўняе нашу
У якасці чацвёртага палка.
Сам Аляксандр Міхайлавіч павінен
З хвіліны на хвіліну падысці.

А з і н *(задаволена)*

Выдатна... Ўсё выдатна, ардынарац.
Такія справы...

Стэн (*перамінаючыся*)

Можна мне ісці?

Азін

Ідзіце... Не, чакайце... Неабходна
Алеську з Янкам нашых адшукаць...

Стэн

Ёсць!

**Ардынарац** выходзіць. З-за хаты паяўляецца **Стары**, падае ў знямозе. Салдат кідаецца да яго, падымае, садзіць на ганак.

Азін (*здзіўлена*)

Што за з'яўленне боябанькі народу?

Стары (*ціха*)

Пі-і-іць!

Азін (*Салдату*)

Прынясі вады хутчэй! Вады!

Салдат таропка бяжыць у хату па ваду.

Стары

Звяругі, белякі...
На «баржах смерці»...
Панішчылі усіх... да аднаго...

Салдат выносіць кварту вады, падае Старому. Той прагна п'е, вяртае кварту Салдату.

Салдат

Напіліся?

Стары

Так... Дзякую, сыночак...

**Салдат** выходзіць.

А з і н *(прысаджваецца на ганак)*

Цяпер бы ладам-складам расказаць
Пра «баржы смерці»...
Пра зямлю удмуртаў...
Што да чаго там...

С т а р ы *(з роспачу)*

Што ж вам расказаць?!
Па шчырасці — так белякі лютуюць
Пад шырмай барацьбы з бальшавіком —
Што стогне люд! Забіты турмы ўсе
Невінаватымі... А сотні падазроных
На баржы гоняць... Баржы — на раку...
Шмат «баржаў смерці» сёння у Гальянах
На прыстані пры беразе стаіць...
Мяне паслалі людзі да чырвоных,—
На азінцаў надзея ў нас адна...
*(Выцірае слёзы.)*
Мае таксама у «плывучых турмах»,
Амаль уся вясковая радня...

А з і н *(задуменна)*

Дык, кажаце, ў Гальянах?

С т а р ы

Так, сыночак...

А з і н *(сабе)*

А што, калі?..

С т а р ы *(умольна)*

Дапамажыце нам...
Дабро бог не забудзе!

А з і н

Ардынарац!

На ганак выбягае С т э н.

Тэлеграфуйце... Хай па Каме ўверх
Выходзяць тэрмінова мінаносцы.
Хай Волжская флатылія агнём
Адпомсціць белякам за «баржы смерці»,
За слёзы, за пакуты і за здзек
Аддасць спаўна звяругам ашалелым.

Стары

Па Каме... Гэта рызыка, сынок...
Там ворагі... Ў Гальянах і чакаюць
На дапамогу той англійскі флот...

Азін *(з усмешкай Стэну)*

Дык мы пад флагам адмірала Старка
І выйдзем неадкладна у паход,
І вызвалім нявольнікаў.

Стэн *(ціха)*

Прабачце!
Залішне гэта рызыкоўны крок...

Азін

Так, рызыкоўны... На вайне няможна
Без рызыкі, браток, перамагчы...

Стэн

Але ж...

Азін *(ардынарцу)*

Дзядулю накарміць з дарогі.

Стэн

Ясна!

Азін

А потым — адпачынак.

Стэн

Зразумеў.

Стэн і Стары выходзяць. Неўзабаве ўваходзяць Янка і Алеся. Азін гладзіць дзяцей.

Азін

Алеська, Янка... Просьбы ёсць якія?

Алеся

Ёсць просьба.

Янка

Ёсць.

Азін

Давайце па чарзе.

Алеся

Я...

Янка *(перабівае)*

Я скажу.

Азін *(смяецца)*

Тады кажыце разам.

Янка *(зазіраючы Азіну ў вочы)*

Маглі б вы...

Алеся *(перабівае)*

На заданне нас пасланць?

Янка

Нам даць якое-небудзь даручэнне?..

А з і н *(прысаджваецца на ганак)*

Сядайце і паслухайце, сябры...

Янка і Алеся прысаджваюцца побач.

Выходзім неўзабаве ў наступленне
Мы на Іжэўск...
У гэты горад вам
Прабрацца непрыкметна неабходна.
І ў бежанцах звычайных пахадзіць.
Ўсё выгледзець і да драбніц падслухаць,
Дакладна нашым людзям перадаць...
Каму?.. Скажу пазней. Пры развітанні.
Адно — я папярэдзіць вас хачу —
Паспешлівыя крок ці нават слова
Вам, дзеткі, могуць каштаваць жыцця...

А л е с я *(устае)*

Паслужым рэвалюцыі!

Я н к а *(устае, цвёрда)*

А куляй
Нас не спалохаць ворагам любым!..

7

Камандны пункт дывізіі Азіна. Акрамя начдыва тут камандзіры 3-га і 4-га палкоў С е в я р ы х і н і Ч э в е р а ў. Здалёк даносіцца кананада.

А з і н *(да Севярыхіна)*

Зноў бой ідзе. Цяпер, на развітанне,
Не грэх праверыць, як там трэці полк.

С е в я р ы х і н

Задача нам вядома. Стукнем гадаў!

Азін *(да Чэверава)*

А ваш, чацвёрты?

Чэвераў

Мы не падвядзём!
Дадзім прыкуркі белякам-паганцам.

Стэн *(уваходзіць)*

Таварыш Азін, вось — для вас пакет.

Азін *(бярэ пакет)*

Пакет са штаба перад самым боем.
*(Прабягае вачыма па аркушы паперы.)*
Па арміі прыслалі нам загад...
*(Чытае.)*

«Таварышы чырвонаармейцы! 7 лістапада спаўняецца год з таго дня, як над Расіяй пераможна ўзвіўся Чырвоны Сцяг сацыялізма. На працягу года пралетарыят і сялянства ў нечуваных і выключна цяжкіх умовах трымаюць уладу ў сваіх руках, мужна адбіваючы незлічоныя ўдары сваіх ворагаў. Да канца чырвонага года Рабоча-сялянская ўлада стала яшчэ больш моцнай, чым упачатку, стварыўшы сваю Чырвоную Армію, якая расце не па днях, а па гадзінах...

Таварыш Ленін прасіў члена Рэўваенсавета Гусева, які вярнуўся з Масквы, перадаць, што да ўрачыстага дня гадавіны ён чакае данясення аб узяцці Іжэўска. Рэўваенсавет упэўнены, што чырвонаармейцы Другой арміі апраўдаюць надзеі таварыша Леніна і дадуць магчымасць паслаць 7 лістапада на ўрачыстае пасяджэнне Усерасійскага з'езда Саветаў тэрміновую тэлеграму аб узяцці Іжэўска.

Рэўваенсавет упэўнены, што дэзарганізаваны і аслаблены вораг, акружаны моцным кальцом, не вытрымае нашага дружнага ўдару. Смялей жа наперад, таварышы! Час перамогі блізкі. Няхай дзень гадавіны Рабоча-сялянскай улады стане днём адваявання ў белых Іжэўска!

Доблесныя геройскія войскі Другой арміі! Перад вамі Іжэўск — апошні аплот белагвардзейцаў і іншай сволачы ў Прыкамскім краі. Разганіце белагвардзейцаў. Знішчыце ворагаў працоўнага народа!

Выратуйце палонных, тысячы спачуваючых нам і зараз загнаных у турмы, многіх сабраных у турмы-баржы на Іжэўскім возеры, якія чакаюць з гадзіны на гадзіну расстрэлу...» *(Азін глядзіць на баявых сяброў.)*

Цаной вялікай здабылі свабоду!
Любой цаной свабоду адстаім!..
На бой!

С е в я р ы х і н *(устае)*

На бой!

Ч э в е р а ў

На жорсткі бой, крывавы!

А з і н

Ёсць шлях адзін у нас — перамагчы!
Пра горад і пра ворага вядома
Ўсё да драбніц... У стане белякоў
Нядрэнна працавала і разведка!..
Не захапілі б толькі пасланцоў...

С е в я р ы х і н

Яны ў нас не такія, каб пападацца.

Азін

Дык дзеці ж... Дзеці...

Чэвераў *(зірнуўшы на гадзіннік)*

Значыць, трэба нам
Ісці насустрач...
Чым хутчэй, тым лепей!

Азін *(паціскае рукі камандзірам)*

Што ж, пастаім за праўду галавой!

Севярыхін і Чэвераў выходзяць. Паяўляецца Стэн.

Стэн

Вы клікалі мяне?

Азін

Дзе зараз браняпоезд?

Стэн *(дастае карту, паказвае)*

Тут.

Азін

Перадайце Шоміну хутчэй...

Стэн *(хавае карту, бярэ блакнот)*

Я слухаю...

Азін *(дыктуе)*

Ісці у бок Іжэўска...
У вёску Старкаў Бор... Сваім агнём
Наш трэці полк прыкрыць
у наступленні...
Чыгуначны хай выйдзе батальён
Наводзіць і масты, і пераправы...
Ўсё запісалі?..

Стэн

Так, занатаваў.

Азін

Перадавайце!

Стэн выходзіць, і праз хвіліну з суседняга пакоя даносіцца стук тэлеграфнага апарата. Чуецца глухая артылерыйская кананада, дружнае чырвонаармейскае «ўра!». Неўзабаве Стэн вяртаецца, усміхаючыся, падае Азіну тэлеграфную стужку.

Стэн

Вось.

Азін *(буркатліва)*

Дачасна радавацца.
*(Прабягае вачамі па стужцы,*
*таксама ўсміхаецца.)*
Прыемную прынеслі навіну —
Прарваны з боем вал умацаванняў
У раёне небяспечным ля Бахіл...
Наш вораг адступае...

Стэн *(узнёсла)*

Перамога!

Азін

Не, радавацца рана... Што з Другім
Палком?.. Ці увайшлі у бой рэзервы?

Стэн

Рэзервы ўсе уведзены у бой.

Азін *(з палёгкай,*
*зірнуўшы на стомленага Стэна)*

Вы б адпачылі... Пад вачамі чорна...

Стэн *(з усмешкай)*

Не мне, а вам дарэчы адпачыць,—
Не ноч, не дзве без сну сядзіце ў штабе.

Азін

Іжэўск захопім — разам адпачнём...

Стэн зноў бяжыць да тэлеграфа, хутка вяртаецца.

Калі зямлю ад погані ачысцім,
Тады і адпачнём...
*(Чытае стужку, якую падаў Стэн.)*
Так... Трэці полк
Узяў з налёту Старкаў Бор... Выдатна!..
Заняў Старую Венью... Малайцы!..
Ну, Севярыхін!.. І Малая Венья
Ў яго руках!.. Выдатны камандзір!..
Замацаваўся ў вёсцы Пірагова...
Цудоўна, Стэн!.. А флангі адстаюць...
У Мусульманскі полк паслана сувязь...
*(Ціха, сабе.)*
Каб не падвёў нас Мусульманскі полк!
*(Чытае.)*
Прашу дазволу...
*(Да ад'ютанта.)*
Стэн, вам перадаць
У штаб армейскі неадкладна трэба:
«Прашу дазволу з Юсак батальён
Ў Старую Венью хутка перакінуць».

Робячы паметкі ў блакноце, Стэн выходзіць, перадае паперку тэлеграфісту. Азін доўга глядзіць у акно, прыслухоўваецца да страляніны далёкага бою. Вяртаецца ардынарац.

Азін *(задуменна)*

Памалу днее... Сёмае сягоння...

Стэн

Са святам вас...

Азін

Іжэўск патрэбна ўзяць,
А потым — і са святам віншаваць.

Звоніць тэлефон. Азін бярэ трубку.

Так... Азін... Афіцэрскі батальён
Уведзены у бой?.. А вы спакойна...
Раз кінуў свой рэзерв апошні ў бой,
То, значыць, больш няма чаго уводзіць...
Ён задыхнецца хутка...
*(Кладзе трубку.)*
Дзеці — дзе?..

Стэн

Хвалююся за іх, нібы за родных.

Азін

Пайшоў бы сам — не пёк бы
сэрца боль...

Зноў звоніць тэлефон. Азін бярэ трубку.

Так... Дзякую...
І вас з прыемнай весткай...
*(Кладзе трубку, ардынарцу.)*
Пішыце... Камандарму, што Іжэўск
Абклалі нашы войскі... І ні кроку
Назад не зробім... Горад будзе наш!..
І подпіс — Азін!

Ардынарац таропка выходзіць. У штаб убягаюць Янка і Алеся, кідаюцца на шыю Азіну.

Азін *(узрадаваны, усхваляваны)*
Малайцы!.. Жывыя!..

Я н к а

А мы не забывалі там пра вас.

А л е с я

І помнілі пра пільнасць моцна-моцна.

А з і н

Як радасна, што дачакаўся вас.

Я н к а

Спачатку было боязна... Навокал
Сп'янелыя і злыя белякі...

А л е с я

А нашы як ударылі, палезлі
Са шчылін, нібы тыя прусакі...

Я н к а

А я ўсё локцем як штурхну Алеську —
Каб там не рассмяялася...

А л е с я

Але ж...

Усе смяюцца. Уваходзіць С т э н.

С т э н

Таварыш...

А з і н

Што такое? Ну, дакладай!

С т э н *(падае стужку тэлеграфа)*

Вось тэлеграма... Ленін падпісаў...

А з і н *(чытае)*

«Вітаю доблесныя чырвонаармейскія войскі, якія ўзялі Іжэўск. Віншую з гадавінай рэвалю-

цыі. Няхай жыве сацыялістычная Чырвоная Армія. Ленін».

Стэн *(ціха, усхвалявана)*

Сам Ленін нас віншуе... Сам Ільіч!..

Азін *(горда)*

Сам Ле-нін!..

Стэн

Ёсць яшчэ паведамленне, што вы, таварыш Азін, а таксама Севярыхін, Чэвераў, камандуючы арміяй таварыш Шорын узнагароджаны ордэнамі Чырвонага Сцяга, а 3-ці і 4-ты палкі — Ганаровымі рэвалюцыйнымі Чырвонымі Сцягамі...

Янка

Віншуем вас.

Алеся

Віншуем ад душы...

Азін

Кастрычнік!.. Сёння роўна гадавіна,
Як над зямлёй яго ўзвінуўся сцяг.
Свабоды сцяг, братэрства ўсіх народаў,
Сцяг Праўды, Шчасця, Роўнасці людзей...
Мінуць стагоддзі, толькі гэта свята
Заўсёды першым будзе на зямлі,
Бо сонца з ім прыйшло у нашы сэрцы
І светлы дзень прыйшоў да нас навек!..

# Частка другая

## 8

Штаб азінскай дывізіі. Стол, крэслы, тэлефоны. Пакуль няма гаспадара кабінета, за сталом сядзіць Я н к а. Ен у перашытай па росту салдацкай форме. На гімнасцёрцы — выразаны з паперы ордэн Чырвонага Сцяга — якраз такі, як у начдыва. Выцягнуўшыся па струнцы, перад ім стаіць А л е с я. Яна таксама ў падагнанай вайсковай форме.

Я н к а *(тонам Азіна)*

А-а, гэта ты? Пазнаў. Стары знаёмы.
Дык гэта ты ўчора ў малако
На стрэльбах заганяў за куляй кулю?

А л е с я *(вінавата апускае галаву)*

Але... Было... Таварыш камандзір...

Я н к а *(дакорліва ківае галавой)*

З такой стральбой не бачыць перамогі.

А л е с я

Я выпраўлюся... Слова вам даю...

Я н к а

Вунь, бачыш, слуп стаіць узбоч дарогі?

А л е с я

Так, бачу.

Я н к а

З першай кулі пападзеш?

А л е с я *(няўпэўнена)*

Старацца буду.

Янка

Ты бяры даказвай!

Алеся *(падыходзіць да акна, «бабахае», пацiскае плячамі)*

Зноў міма!

Уваходзіць Азін, прыслухоўваецца, усміхаецца.

Янка *(не заўважаючы Азіна)*

Вось глядзі цяпер!
*(«Бабахае».)*
Лічы!

Алеся

Ёсць раз!

Янка *(«бабахае»)*

Лічы!

Алеся

Ёсць два!

Янка *(«бабахае»)*

Лічы!

Алеся

Ёсць трэці!

Янка

Вучыся нашых ворагаў знішчаць,
Каб менш было паганцаў на зямлі.

Алеся *(падцягнуўшыся)*

Таварыш Азін, я не падвяду!

Я н к а

Павінен не падвесці...
*(Гукае, роблена-басавіта.)*
Ардынарац!

З суседняга пакоя выбягае С т э н. Азіраецца, заўважае Азіна з дзецьмі, пераміпаецца. Дзеці сумеліся. Азін гучна смяецца. Смяецца і Стэн.

А л е с я *(сумеўшыся, Азіну)*

Прабачце... Мы гулялі у вайну...

Я н к а *(таропка выходзіць з-за стала)*

У Азіна гулялі... Тут, па вёсках,
У Азіна гуляе ўся дзятва...

А з і н *(па-бацькоўску цёпла)*

У лялькі б вам гуляць —
не нагуляцца,—
Вайна ж маленства краскі замяце.

Звоніць тэлефон.

С т э н *(Азіну)*

Вам тройчы ўжо званілі... Небяспечна
Камбрыг Ганіхін з войскамі павёў...
Сюды, да вас, з салдатамі імкнецца...

А з і н *(здымае трубку, прыслухваецца)*

Так... Ведаю, таварыш камандарм...
Аб перавазе ворага вядома...
Але ж мы не адступім... Прымем бой...
Так... З Першаю брыгадай разбяруся...
Камбрыг Ганіхін будзе у мяне...
Я высветлю, як белякам заводы
Збіраецца надалей аддаваць...
*(Кладзе трубку.)*

Ганебны палахлівец... Гэта здрада!
І за яе патрэбна спаганяць!

Стэн

Мо выклікаць узвод кавалерыстаў?..
Ганіхін можа сілу прымяніць...

Азін *(спакойна)*

Уласнай сілы будзе дастаткова...
Уціхамірыць здолеем яго.
*(Янку і Алесі.)*
Вы б, дзеці, можа, крыху пагулялі?

Янка

На вуліцы?

Азін

Так.

Алеся

Можна? Мы пайшлі...

Янка і Алеся выходзяць.

Азін *(кладзе на стол «кольт», Стэну)*

Па шчырасці вось тут і пагаворым.

Стэн *(выглядвае ў акно)*

Ганіхін са сваімі у двары.

Азін

Спакойна, Стэн... І беражыце нервы...

Стэн

Трымаюся, як навучылі вы.

У штаб без дазволу ўрываецца камбрыг Ганіхін. Следам — група ўзбуджаных салдат.

А з і н *(рэзка)*

Я выклікаў камбрыга — не брыгаду!

Ганіхін *(з усмешкай)*

Ганіхін у адказе за людзей,
А людзі — за яго... Так справядліва...
*(Падсоўвае сабе крэсла, садзіцца.)*

А з і н *(падымае «кольт»)*

Устаць!

Схамянуўшыся, Ганіхін устае.

Салдат праводзьце, ардынарац!

Стэн прапускае салдат на выхад.

У нас гаворка будзе тэт-а-тэт!..

Першы салдат

Ну і круты заўсёды гэты Азін...

Другі салдат *(з адабрэннем)*

Так. Бачна, партызаншчыне — канец!

Трэці салдат

Дастанецца цяпер за адступленне...

Салдаты выходзяць.

А з і н *(Ганіхіну)*

Ну, вось цяпер пара пагаварыць...
Вы кажаце — пра клопаты аб людзях.

Ганіхін

Так... Клапачуся сэрцам і душой.

А з і н *(злосна)*

Здаваць рубеж — не клопат. Гэта — здрада!

Ганіхін *(апраўдваючыся)*

Не мог жа я людзей пасланць на смерць...
Вось і рашыў... Падумаць...
Зграпавацца...

Азін *(суха)*

Каб потым зноў з пазіцый адысці?
Вы — палахлівец!

Ганіхін *(збянтэжана)*

Я?..

Азін

Так... Здайце зброю!..
Вы больш не камандзір...
Вы не камбрыг...

Ганіхін *(разгублена)*

А хто ж брыгаду прыме?

Азін

Прыме Азін.

Ганіхін *(злосна зіркнуўшы на Азіна)*

За гэта вы адкажаце, начдыў.
*(Кладзе зброю на стол.)*

Азін *(Стэну)*

Загад перадавайце: неадкладна
Замацавацца зноў на рубяжы...
Назад — ні кроку! Веру, што салдаты
Душой успрымуць баявы загад!..

Моўчкі, утуліўшы галаву ў плечы, стаіць Ганіхін.
Стэн ідзе да тэлеграфа.

## 9

Невялікая каюта на параходзе «Лермантаў». У ілюмінатары — хуткаплынная рака. Чутны плёскат хваляў. Начдыў, схіліўшыся над картай, робіць алоўкам нейкія паметкі, ціха спявае.

Азін

Рабіна, рабіначка,
Рабіна мая.
Чаму ж ты, рабіначка,
Рана адцвіла?

Уваходзіць камандзір атрада Калпакоў.

Азін

Зот Калпакоў?

Калпакоў *(выцірае слёзы)*

Па асабістай справе.

Азін

Я слухаю, таварыш Калпакоў..
Сядайце...

Калпакоў *(прысаджваецца)*

Шчыра дзякую...

Азін

Не трэба
Мужчыне плакаць...

Калпакоў

Слёз мне не стрымаць.
*(Падае аркуш паперы.)*

Азін

Што гэта?

Калпакоў

Рапарт.

Азін *(здзіўлена)*

Рапарт?.. Пачытаем...
«Прашу як найхутчэй накіраваць
Мяне ў распараджэнне ваенкома
Ў Елабугу...» І подпіс — Калпакоў.
*(Чухае патыліцу.)*
Але ж...

Калпакоў

Мяне у Елабугу прасіцца
Прымусілі не цяжкасці баёў.

Азін

Вы спакайней... Я гэтак і падумаў...

Калпакоў

Елабуга, паверце мне,— не мёд.

Азін

У чым жа справа?

Калпакоў

Белякі-звяругі...
На «баржы смерці»...
Бацьку, двух братоў...
Пляменнікаў пятнаццаць засталося...

Азін

Няма каму іх гадаваць зусім?

Калпакоў

Ў старэйшага якраз памерла жонка,
Ў малодшага — аж страшна уявіць —
Ад гора розум страціла.

Азін *(спачувальна)*

Балюча...

Калпакоў

А ў вас, скажыце, пэўна ж, дзеці ёсць?

Азін

Аж сорак.

Калпакоў *(здзіўлена)*

Як гэта сорак?.. Жартачкі?

Азін

Сур'ёзна...
Зусім і не збіраўся жартаваць.

Калпакоў *(пацепвае плячамі)*

Н-не разумею...

Азін

Меў іх трыццаць восем,
Як з Беларусі бежанцаў прыняў,
А сёння — сорак. Двух малых удмуртаў
Я Азінымі запісаў. Бацькоў
Забілі днямі белыя... Звяругі!..
*(Цяжка ўздыхае.)*
О колькі гора нам нясе вайна!
Валодзя Азін — так завецца хлопчык.
Дзяўчынка — Ева...

Калпакоў

Жонку так завуць?

Азін

Не, маці. Я пакуль што нежанаты.
Не маю часу.

Калпакоў

Ўсё вайна, вайна.

Азін *(задуменна)*

Як там мае? Як мой любімы Полацк?
У горадзе лютуе немчура.
Магчыма, ўсіх, звяругі, перабілі?
Слаў тэлеграму... Але ўсё дарма...

Калпакоў *(пасля паўзы)*

Хутчэй бы мне ў Елабугу. Там дзеці...
Дапамажыце, я Хрыстом малю...

Азін

Звярнуцца я магу да камандарма,
Ды толькі не упэўнены, што ён...
Абставіны выключныя... Вы — вось што:
Свой рапарт забірайце — і, на крылах,
На параход «Чырвоная звязда»...
Да Крупскай... Як параіць —
так і будзе!

Калпакоў *(вагаецца)*

Ваенныя пытанні вырашаць
Ці возьмецца?

Азін *(цвёрда)*

А ўсё ж звярнуцца трэба,
Бо лепш яе не ведае ніхто,
Як вырашыў бы нашу справу Ленін.

Калпакоў

А-а...

Азін

Зразумела?

Калпакоў

Ну, тады бягу!

Азін *(устае, ходзіць па пакоі)*

Які высакародны чалавек...
Братоў і бацьку...
Ён жа свой атрад
Заўжды гатовы весці у атаку...
Непераможны ўсё ж такі народ!

## 10

Сялянская прасторная хата. За сталом — Азін. Поруч — ардынарац Стэн.

Азін

Расказвайце пра справы падрабязней.
Я ўсё павінен ведаць да драбніц...

Стэн

Не зблытае нічога Стэн ніколі
І ад сябе ні кроплі не дадасць...
Сяляне Сарапульскага павета
Прыйшлі ў сакавіку да Ільіча.
«Прыехалі,— сустрэў іх Ленін,—
з хлебам?»
«Так, з хлебам»,— адказалі хадакі.
«Хлеб, значыць, ёсць пакуль
у нашай вёсцы?»
«Выходзіць, ёсць».
«А забіралі як?
Не ў крыўдзе беднякі?»
«Ды не, не ў крыўдзе —
Мы хлеб у белых выдралі з зубоў.
Салдаты 28-й падтрымалі...
Ад Азіна...»

Азін *(з недаверам)*

Вы гэта ад сябе?

Стэн

Не зблытае нічога Стэн ніколі
І ад сябе ні кроплі не дадасць...

Азін

Тады далей...

Стэн

Салдаты падтрымалі
Ад Азіна...
Бо армія ж — народ!..
А потым Ленін напісаў запіску
У Массавет... Ён подзвігам назваў
Такі жывы парыў сялянскай масы...

Рэзка звоніць тэлефон.

Азін

Хто б мог званіць у гэты ранні час?

Стэн *(здымае трубку, перадае Азіну)*

Таварыш камандарм ля апарата.

Азін

Таварыш Шорын!.. З Першамаем вас!..

Шорын *(па тэлефоне)*

І вас, таварыш Азін, з Першамаем!

Азін

Прашу вас спешна выслухаць даклад. Становішча трэцяй брыгады цяжкае. Праціўнік выбіў нашы часці са Старой Ігры і Верхняй

Ігры. Праціўнікам таксама занята Космадзям'янскае... Сілы ў гэтым напрамку ён рухае вялікія, моцны бой ідзе таксама на ўчастку другой брыгады. На ўчастку першай брыгады праціўнік таксама атакуе... Задача праціўніка акрэсленая: выйсці на Архангельскае — Крымская Слудка... Першы Савецкі полк выбыў са строю... У Смаленскім засталося сто чалавек... Прашу канкрэтных распараджэнняў, патрэбны неадкладныя меры...

Шорын

28-мы і 29-ты палкі разам з 246-м палком перайшлі ў наступленне. Ці аказваюць 28-мы і 29-ты палкі садзеянне?

Азін

Вам невядома абстаноўка рэзервнай брыгады... Згодна са зводкай камбрыга Бахціна, Космадзям'янскае пакінута, а Глазава атакуецца...

Шорын

Гэтых звестак я не атрымліваў і не разумею, як гэта магло здарыцца. Куды падзеліся 246-ты і 245-ты палкі?

Азін

Я вам перадаў тэлеграму Бахціна. Адрасавана вам, копія мне...

Шорын

Атрымаў, зараз чытаю...

Азін

Цяпер вам зразумела?

Шорын *(пасля паўзы)*

Зводак вашых не чытаў, бо толькі што прыехаў з майскага свята. Цяпер трэба прыняць усе меры, біцца што б там ні было. План далейшых дзеянняў паведамлю.

Азін

Прашу вас даць загад, бо становішча патрабуе сур'ёзных рашэнняў. Пытанне аб тым, як групаваць за ракой абоз, артылерыю,— усё гэта залежыць ад плана будучай аперацыі. Марудзіць я не магу.

Шорын

Таварыш Азін, захоўвайце спакой і самавалоданне і верце, што са становішча мы выйдзем. Я вам сказаў, што план далейшых дзеянняў паведамлю.

Азін

Я зусім спакойны. Аднак я ўлічваю абстаноўку, сваю баяздольнасць і таму мой даклад прашу прыняць да ўвагі...

Шорын

Што прапануеце?

Азін

Прашу дазволу дзейнічаць самастойна.

Шорын

Але-е-е...

Азін

Яшчэ не верыце?

Шорын *(пасля паўзы)*

Веру.

Азін

Тады?..

Шорын

Што ж... Дазваляю...

Азін

Дзякуй!..
*(Кладзе трубку.)*
Ардынарац!..

Убягае Стэн.

Ўсіх камандзіраў спешна да мяне.
Наперадзе — гарачы бой! Нам трэба
Усё абдумаць разам...

Стэн ідзе да дзвярэй.

І яшчэ...
*(Стэн спыняецца, Азін зазірае яму ў вочы.)*
Прызнайцеся, пра Леніна вы крышку...
Ну... Ад сябе... Прызнайцеся, аднак!

Стэн *(сумеўшыся)*

Не зблытае ваш Карл Стэн ніколі
І ад сябе ні кроплі не дадасць...

Азін *(з хітраватай усмешкай)*

А тут?

Стэн

Было...

Азін

Ну, дзякуй вам за шчырасць...
Збірайце камандзіраў да мяне!

## 11

За вокнамі — лютуе завея, шпурляе ў шыбіны снегам. Стогне, завывае вецер.

Штаб 28-й. Азін услухоўваецца ў посвіст мятлюгі, праз які чуецца хор салдацкіх галасоў — па вуліцы праходзяць войскі:

Па Уралу, па Прыкам'ю
Азін-сокал пралятаў.
Ён на Волзе біў буржуяў,
Калчака ў Сібіры гнаў.

У дывізіі Жалезнай
Камандзір наш малайцом.
На вяселлі у салдата
Ішоў упрысядкі з байцом...

Стэн *(уваходзячы)*

Яшчэ віншуе з важнай перамогай
Вас вельмі паважаны чалавек.

Азін *(узрадавана)*

Хто гэта, Стэн?..

Стэн *(падае пісьмо)*

Вы самі пачытайце.

Азін *(бярэ пісьмо)*

Дык гэта ж наш шаноўны Калпакоў!
*(Чытае.)*
«Да сённяшняга дня забыць няможна
Спагады вашай, вашай дабрыні...
І Крупскай мацярынскі цёплы клопат
Са мною застанецца назаўжды.
Ў Елабугу прыехаў я. Да дзетак
Уладкаваўся — у ваенкамат.
Па вёсках ездзім шмат. І кожны раз
Вітаюць як збавіцеляў нас людзі...
Савецкая улада не памрэ.

І хоць багата розных недабіткаў
Блукае па знявечанай зямлі,
Хоць кулі каля скроняў часта свішчуць
І пільна з-за вугла цікуе смерць,
Я веру: сілы нашай прыбывае.
Яна — у дзецях нашых.
І для іх
Жыцця не пашкадую я ніколі —
За будучыню я яго аддам».
*(Вяртае пісьмо Стэну.)*

С т э н

Адказ падрыхтаваць па поўнай форме?

**А з і н**

Не, не адказ. А копіі пісьма.
Няхай яно гучыць у кожнай часці,
Увойдзе ў сэрца кожнага байца...
А што з разведкай, Стэн?

С т э н *(вінавата)*

Пакуль — маўчанне.

А з і н

Вярталіся ж звычайна, як званок.

С т э н *(супакойваючыся)*

Няпростая задача перад імі
Ў варожым тыле.

А з і н

Вопыт ёсць ужо...
Не першы раз пайшлі з такім заданнем.

С т э н *(пасля паўзы)*

Як дзіка — дзецям вопыт па вайне!

Што ж, вопыт ёсць. Ды можа павярнуцца
Так нечакана кожны новы дзень.
І што тады?

Грукат у сенцах.

А з і н *(Стэну)*

Зірніце. Хтосьці ходзіць.

С т э н *(выходзіць, хутка вяртаецца)*

Да вас прыйшоў знаёмы чалавек.

А з і н

Пакліччэ!

Стэн адчыняе дзверы, уваходзіць С т а р ы.

Сапраўды, стары знаёмы!
Сядайце. З чым вы: радасцю, бядой?..

С т а р ы

З бядой вялікай, камандзір...
Вялікай...

Азін падхопліваецца, устае.

Мяне старое сэрца прывяло
Да вас, нібы да бацькі...

А з і н

Што з маімі?

С т а р ы

З разведчыкамі вашымі — бяда!

А з і н

Расказвайце ўсё ладам — па парадку...
Што бачылі? Што чулі? Ад каго?
*(Узрушана ходзіць па пакоі.)*

Стары

У горадзе мінулаю нядзеляй
Я выправіўся ранкам на кірмаш...
Гады немаладыя, каб аббегаць
І ўсё уведаць... А кірмаш табе
Ўсё, што хочаш, укладзе у вушы...
Ты іх хоць затыкай, не затыкай...
Дык вось...

*(Дастае капшук.)*

Я пакуру крыху з дарогі?

Азін

Курыце. І расказвайце хутчэй.

Стары *(закурвае, зацягваецца)*

Хаджу я, значыць, між радоў гандлёвых
І прыпыніўся ціха ля салдат.
Гарэлку п'юць, прыкусваюць скарынкай
І зарудзелым цвёрдым селядцом...
Тады адзін, у воспінах, і кажа:
«Нямала жыццяў я са свету звёў,
Слязы не праліваў... А ўчора гвалціць
Узводам сталі азінку... Дык я
За сэрца ўзяўся... Тварам і узростам
Нагадвала мне родную дачку...»

Азін *(скрыгатнуўшы зубамі)*

А што яшчэ падслухаць давялося?

Стары *(зноў глыбока зацягваецца)*

Яго напарнік, чорны, адказаў:
«Парэзаць трэба бабскае адроддзе...
Мая дачка з чырвонымі круціць
Любоўчы пачала... Яе казакам
На ўцеху не аддаў... Парэзаў сам

Кінжалам у жывот... Крычала нема,
А я яе кінжалам... У жывот...»

А з і н *(нецярпліва)*

Далей, далей што?

С т а р ы

У воспінах і кажа:
«Не вытрымала азінка... Ўначы
Наклала на сябе дзяўчынка рукі...»

Азін налівае сабе вады, прагна п'е.

А хлопчыка, што з ёй, чацвяртаваць
Павінны сёння...

А з і н *(знясілена апускаецца ў крэсла)*

Вось яно і гора!

## 12

Зіма. Позні вечар. За акном скуголіць гайня вятроў. Ледзь-ледзь ліпіць прытушаны агеньчык газоўкі. Азін сядзіць за сталом над стосам папер. Да яго на дыбачках падыходзіць Я н к а.

А з і н *(ласкава)*

Не спіцца, Янка?

Я н к а *(уздыхае)*

Так, зусім не спіцца.

А з і н

А ты спрабуй, сыночак мой, заснуць.
Праз не магу...
Бо заўтра — дзень гарачы...

Я н к а

Баюся... Я цяпер баюся спаць.

А з і н

Чаго баяцца?

Я н к а

Сніў, што я да белых
У лютай бітве трапіў у палон.
У белы стэп вядуць мяне расстрэльваць.
Палкоўнік белы рот разявіў: «Плі!»
Я і прачнуўся... І баюся зараз:
Засну, дык змогуць, гады, пакараць...

А з і н *(гладзіць хлопчыка)*

Ты што ж раней пра гэта не расказваў?
Я б гэтых белякоў падцікаваў
І даў ім перцу. Мо дадзім ім разам?

Я н к а

Абавязкова разам ім дадзім!

А з і н

Дамовіліся?

Я н к а *(усхліпвае)*

Так... Але Алеську
Цяпер не зможам мы абараніць...
*(Паўза.)*
Ніколі не пабачу больш Алеську...

А з і н

Суцішся. Супакойся. У бядзе
Не дапамогуць слёзы... За сястрычку
Мы будзем помсціць, Янка, да канца.

Уваходзіць С т э н, падае чай.

Стэн

Са стану белых толькі што вярнуўся
Наш новы пасланец.

Азін

Няўжо Стары?

Стэн

Ён самы... Кажа: заўтра-паслязаўтра
Магчыма наступленне...

Азін

Звесткі?

Стэн

Сон.

Азін *(незадаволена)*

Зноў гэты сон. Як насланнё якое!
А зараз дзе прарок?

Стэн

Магчыма, спіць...
Вядома, прытаміўся дзед з дарогі.

Азін

Калі не спіць, паклічце да мяне.

Стэн выходзіць.

Адкуль яна, трывога, ў нашых сэрцах?
*(Да Янкі.)*
А, Янка, ты?.. Ці верыш ты у сны?

Янка

Я?.. Веру.

Азін

А адкуль такая вера?

Янка

Бо сны — адбіткі нашага жыцця.
З прыкрасамі у лепшы бок ці горшы...
Але ў жыцці так можа... Можа быць...

Уваходзіць Стары.

Стары

Вы запрашалі?

Азін

Запрашаў. Сядайце.

Стары

Чым быць магу карысны вам, начдыў?

Азін

Расказваў Стэн, што вам на сны шанцуе.
Няблага нагадаць апошні сон...

Стары

Апошні страшны.

Азін

Усё-ткі.

Стары

Вас душыла
Вялізная і чорная змяя.

Азін *(спрабуе жартаваць)*

І што ж, я не паспеў змяі адсекчы
Паганай галавы?..

С т а р ы

Прабачце, не.
Зрабілі гэта іншыя салдаты.
І сярод іх — наш Янка-камандзір.

А з і н

Вось чуеш, Янка?.. На цябе надзея.

Я н к а *(падцягваецца, па-вайсковаму)*

Гатовы рэвалюцыі служыць!

Уваходзіць С т э н са стужкай тэлеграфа.

С т э н *(усхвалявана)*

Пачаў на золку вораг наступленне.

А з і н *(паспешліва ўстае)*

Вось адсячэм змяюцы галаву,
Каб Янку не палохала... Дзядулю...
Нікога не душыла на зямлі!

## Эпілог

Станіца Ціхарэцкая. Люты 1919-га. Чутно, як з гікам праносяцца на конях белаказакі. Невялічкая станічная плошча прыцярушана снегам. Пахмурныя, са слязамі на вачах, праходзяць станічнікі. Сярод іх — С т а р ы.

С т а р ы *(перажагнаўшыся)*

Ці можна ж гэтак, людзі, з чалавекам?..
Параненага Азіна — у стэп,
Да коней прывязаўшы... Людзі!.. Людзі!..

Выходзіць белагвардзейскі П а л к о ў н і к.

П а л к о ў н і к

Ты што пад нос мармычаш, хрэн стары?

С т а р ы

Малітву ў славу белых эскадронаў.
*(Ціха, сабе.)*
Каб груганнё іх косці падзяўбло!

П а л к о ў н і к

Няхай пачуе бог твае малітвы.

С т а р ы *(ціха)*

Цябе і бога хай ваўкі згрызуць!

П а л к о ў н і к *(кідае манету)*

Вось!.. Свечку запалі свайму святому.

С т а р ы *(ціха)*

Табе б паставіў зараз на свае...

П а л к о ў н і к *(гукае)*

Паручнік!

Выбягае П а р у ч н і к.

Што, палоннага прывезлі?

П а р у ч н і к

Прывезлі.

П а л к о ў н і к

Ён пакінуў гэты свет?

П а р у ч н і к

Яшчэ жыве!

П а л к о ў н і к

Няўжо?

Паручнік

Ды сэрца — б'ецца,
Хаця партыйцу і падохнуць час.

Палкоўнік

А ты не памыляешся?

Паручнік

Крый божа!
Чырвоных сэрцаў многа замаўчаць
Прымусіў я... А гэта не здаецца...
І тукае: тук-тук, тук-тук, тук-тук...

Палкоўнік

Мо ў галаве тукоча з перапою?

Паручнік

Не п'ю я...

Палкоўнік

Маніш!

Паручнік

Звечара не піў.

Палкоўнік

Ідзі, яшчэ правер, што сэрца тое.

Паручнік

Іду.

Палкоўнік

І неадкладна далажы.
*(Перадражнівае Паручніка.)*
Тукоча ўсё... У мазгах тваіх тукоча!

Паяўляецца Капітан.

Капітан

Дазвольце...

Палкоўнік

Дазваляю, капітан.

Капітан *(падае паперу)*

Вось тэлеграма.

Палкоўнік

Што за тэлеграма?

Капітан

Са штаба... Тэрміновая...

Палкоўнік *(разгортвае тэлеграму, шчоўкае языком)*

Але-е-е...

Паяўляецца Паручнік.

Ну, што, паручнік?

Паручнік

Тукае.

Палкоўнік *(пераходзіць на віск)*

Ска-ці-і-на-а-а!
Чырвоныя ў атаку перайшлі.
Ратуйце свае тухлыя галовы!..

Паручнік *(адступае назад)*

А Азін што?..

Палкоўнік *(страціўшы цярпенне)*

Павесіць!.. Закапаць!..

Расцерусіць па ўсёй зямлі лістоўкі —
Маўляў, нам служыць іхні камандзір.
У імені яго такая сіла,
Што здрада будзе азінцам,—
як смерць!

Убягае Салдат.

Салдат

Там азінцы... Ідуць за камандзірам,
Каб выратаваць...

Палкоўнік

Позна ратаваць...
Ды толькі лёс спаўна за кроў
адплаціць —
І нам цяпер усім адзін канец!

Злосна дыхнуў вецер. Палкоўнік, Капітан і Паручнік знікаюць. І над станіцай, над стэпам ускрыльвае песня:

Па Уралу, па Прыкам'ю
Азін-сокал пралятаў.
Ён на Волзе біў буржуяў,
Калчака ў Сібіры гнаў...

Пунсавее зара, быццам полымны сцяг. І здаецца, што з яго ўглядаецца ў нас, у сэрцы нашы Азін. І мы чуем спецыяльны загад па Дзесятай арміі:

«Сціснутыя ў ціскі чырвонымі войскамі дзянікінскія генералы і афіцэры, якія адчуваюць сваю немінучую пагібель, імкнуцца запляміць граззю імёны герояў і камандзіраў Чырвонай Арміі.

Рэўваенсавет Дзесятай арміі аб'яўляе, што гэтая адозва — апошняя паскудная выдумка знявераных белагвардзейцаў.

Начдыў таварыш Азін быў і заўсёды застанецца сумленным, мужным, доблесным змагаром за ўладу працоўнага народа, непрымірымым ворагам усіх насільнікаў і эксплуататараў.

Герой Азін з першага дня рэвалюцыі змагаўся ў першых радах Рабоча-Сялянскай Чырвонай Арміі. Ён на чале доблеснай 28-й дывізіі біўся і разбіў белачэхаў на Усходзе, Калчака ў Сібіры і дзянікінскія банды на нашым фронце. Ён узнагароджаны за сваю храбрасць і адданасць справе рэвалюцыі ордэнам Чырвонага Сцяга.

Кожны чырвонаармеец, які біўся пад камандаваннем начдыва Азіна, ведае, што нізкі паклёп не заплямiць імя таварыша Азіна і што чырвоны штык заткне горла ворагу, які дажывае свой апошні час».

Перад лютай чорнай смерцю
Ён схіляцца не прывык...
Праз гады,
Дзесяцігоддзі
Азін з намі, як жывы!..

Гучыць складзеная Народам песня пра народнага Героя.

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ:

**Вера Захараўна Харужая** (яна ж — Ганна Сяргееўна Карнілава).

Зося (яна ж — Антаніна Засько) — яе паплечніца.

Дуся (яна ж — Марыя Пятроўская) — радыстка.

Марыя Ігнатаўна Вераб'ёва — хатняя гаспадыня.

Васіль — яе сын, камуніст-чыгуначнік.

Агаф'я — яго жонка.

Алесь — юны сувязны партызанскага атрада.

Вівенс — начальнік СД.

Рэкша — падручны Вівенса.

Штраух — штурмбанфюрэр СД.

Яцук, Бацянкоў — паліцаі.

Касая — правакатар.

*Дзея адбываецца ў Беларусі*
*ў часова акупіраваным гітлераўцамі Віцебску*
*восенню 1942 года.*

Жыццё бязмежна цудоўнае,
а жыццё ў спалучэнні з барацьбой — гэта шчасце.

*В. З. Харужая*

# Частка першая

## 1

Верасень 1942-га. Часова акупіраваны гітлераўцамі Віцебск. Гасціны пакой у доме Вераб'ёвых па вуліцы Трактарнай. Вокны крыж-накрыж заклеены палоскамі паперы — так жыхары ратуюць шыбы ад частых бамбёжак. На покуце, прыбраныя ручнікамі,— абразы. На акне — рагаты альяс. У сенцах чуюцца крокі, і ў пакой уваходзяць В е р а, З о с я і Д у с я. У сціплым адзенні, з няхітрым скарбам — бежанцы, ні больш ні менш.

Апошнім уваходзіць хударлявы хлапчук — партызанскі сувязны А л е с ь.



А л е с ь

Смялей праходзьце!..
Раз альяс на месцы —
Ніякай небяспекі не чутно.

В е р а *(садзіцца, акідвае позіркам пакой)*

Ну, вось і Віцебск!.. Дальняя дарога,
Раптоўныя засады — за спіной.
*(Сувязному.)*
Алесік, дзякуй... Пачакай у сенцах...
Папрыглядай за домам.

А л е с ь *(выходзячы)*

Я пайшоў.

Д у с я *(з палёгкай)*

Нарэшце адпачнём.

З о с я *(па-гаспадарску раскладвае рэчы, зіркае на абразы)*

Як кажуць, з богам.

В е р а

Пра адпачынак да канца вайны
Забудзьце, мае мілыя сяброўкі.
Да нашай Перамогі...

З о с я

Так... На жаль...
Тут смерць сядзіць за кожным паваротам,
Бо горад — гэта горад... Тут не лес...

В е р а

У лесе — дрэвы, што маўчаць умеюць.
Захоўваць тайны могуць да канца.
Там — дрэвы...

Дуся

І звяры.

Зося

Тут — мур. І людзі.
А людзі — яны розныя усе...

Вера

Не трэба пра людзей так. З недаверам.
Тут нашы людзі. Як і горад — наш.
Ім сонца засланіла хмарай смерці,
І многія сталіся, бы ў сне.
Іх трэба абудзіць. І ў сэрцы веру
У нашу перамогу усяліць.

Зося

Мы зробім гэта, Вера. Слова — зробім!
Ні страхам нас, ні сілай не сагнуць.

Дуся

Але ж мы маем строгае заданне,
І я павінна перадаць у цэнтр...

Вера

Заданне у падпольшчыка не можа
Інструкцыяй абмежаваным быць.
Куды б ні быў пасланы камуніст,
Ён у адным сваю шукае мэту —
Ў змаганні за свабоду ўсіх людзей...
Каб шчасным быў працоўны чалавек!
Хай сёння гэта жорсткі бой з ахранкай,
А заўтра ўжо турэмны каземат...
Мы — камуністы!
Хоць мяняем зброю,
Ды сутнасць застаецца — барацьба.

Зося *(выглядвае на вуліцу)*

Да нашых весніц падыходзяць людзі.

Дуся *(таропка хавае пад ложак кошык)*

Нам толькі не стае чужых вачэй!

Вера *(падыходзіць да акна)*

Вяртаюцца гаспадары дадому.
Алесь ківае — шпіцляў тут няма.

Дуся

А гэты сувязны адкуль узяўся?

Вера

Ён — віцебскі. Падпольшчык-піянер.
Бацькоў забрала першая бамбёжка.
Малога прытулілі сваякі.
Пажыў ён тут, у Вераб'ёвых, крыху
Адклеваў, а пачуў пра партызан
І ў лес падаўся. Цёмныя сцяжынкі
Прыдзвіння ледзь не тыдзень вывучаў —
Пакуль не стрэў заслон лясных салдатаў.
Даў клятву жорстка помсціць за бацькоў,
За родны край... З тае пары і ходзіць
Алесь у горад лепшым сувязным...

У пакой уваходзяць Марыя Ігнатаўна Вераб'ёва, яе сын Васіль, жонка Васіля Агаф'я, Алесь.

Марыя Ігнатаўна *(углядаючыся ў жанчын)*

О-о, колькі вас тут!

Алесь

Столькі, баба Мар'я,
Прывёў, як дамаўляліся...

Марыя Ігнатаўна

Але ж...
Ну, як дайшлі-даехалі, сяброўкі?

Вера

Дабраліся няблага. Дзякуй вам.

Марыя Ігнатаўна

А калі так — знаёміцца давайце.
Мой сын Васіль. Агаф'я — яго жонка.
Са мною вы знаёмыя даўно.
Завочна, праўда. Мне Алесь расказваў
Пра кожную...

Вера

Карнілава... А вось —
Мае сяброўкі школьныя...

Дуся

Марыя... Пятроўская...

Зося

Завуся Антанінаю Засько...

Васіль кашляе.

Марыя Ігнатаўна *(спачувальна)*

Сухоты душаць...
Сын таму не ў войску...
Пры доме... Тут і ў нас хапае спраў.

Вера

Сур'ёзных спраў цяпер паўсюль багата.

Марыя Ігнатаўна

І не кажы, дачушка... Не кажы...

Вера

Не здзейсніцца самім сур'ёзным
справам,—
Каб здзейсніць іх — патрэбны чалавек,
Яго гарэнне, сэрца, розум, рукі...

Марыя Ігнатаўна

Гаворыш праўду, любая. Так, так...
Для працы богам створан чалавек,
Каб існы хлеб свой здабываць у поце.

Вера

Ды не адзіным хлебам чалавек
Жыве на свеце...

Марыя Ігнатаўна

Праўда, не адзіным...
Ідзі, Агаф'я, бульбачку нясі.
Здарожыліся людзі, згаладалі...

Агаф'я выходзіць.

Алесь *(устае, пераміннаецца)*

Мне, пэўна, час ужо ў зваротны шлях.

Марыя Ігнатаўна

Ідзі ж, унучак, з богам... І вяртайся.

Алесь *(дастае з кішэні торбачку)*

А гэта — соль. Што на пінжак змяняў.
Давалі больш, ды дзірку на лацкане
Заўважылі...

Марыя Ігнатаўна

Там ордэн дзедаў быў.
Мірон — ударнік першых пяцігодак...
Сумленна жыў, сумленна працаваў.

Алесь

Дык я пабег?

Марыя Ігнатаўна *(падае хлопчыку хустку)*

Вазьмі, Алесік, хустку.
*(Веры.)*
Мне з прэміі калісьці падарыў
Мірон... На хунт ці болей
абмяняеш...

Алесь *(вагаецца)*

Не варта, можа... Памяць хай жыве.

Марыя Ігнатаўна

Хай памяць захаваецца у сэрцы.
Табе ж паражняком ісці — ні-ні...
Яшчэ праверанць...

Алесь

Ладна, ўгаварылі...
*(Кладзе хустку ў торбачку.)*

Марыя Ігнатаўна

Ну, з богам...

Алесь

Бабка Мар'я, я пайшоў.

Марыя Ігнатаўна

Паабяцай, што будзеш асцярожны.

Алесь *(аддае салют)*

Так... Слова піянерскае даю.
*(Выходзіць.)*

М а р ы я І г н а т а ў н а *(выглядае ў акно)*

А ўжо й цямнее.

Запальвае лямпу. Паяўляецца А г а ф' я з чыгуном.

Вось і наша бульба.

А г а ф' я

Вячэраць, даражэнькія, пара.
Сядайце, калі ласка.

В е р а

Дзякуй.

З о с я і Д у с я *(разам)*

Дзякуй.
*(Садзяцца за стол.)*

М а р ы я І г н а т а ў н а

Мы чым багаты — рады...

В е р а

Дзякуй вам...

Пад акном чуюцца асцярожныя крокі. Стук у шыбу — раз, другі, трэці.

М а р ы я І г н а т а ў н а *(гасіць святло)*

Нікога быццам сёння не чакалі...
Хто б гэта мог?..

В а с і л ь

Ды выжгла... Хто ж яшчэ?..

А г а ф' я *(Веры)*

А-а, касурыха — суседка,
Высочвае, вынюхвае... Змяя!

К а с а я *(гукае каля акна)*

Хазяюшка, пазыч да заўтра газы...

М а р ы я І г н а т а ў н а

Я — хворая... А ў горадзе мае.
Ці ж мне, старой,
у подпал зараз лезці?
Зайдзіце заўтра!..

К а с а я *(здзіўлена)*

Ў горадзе твае?

М а р ы я І г н а т а ў н а

Так... Я ж сказала...

К а с а я

Дзіўна... Мне здалося,
Што дома ўсе сабраліся даўно...

М а р ы я І г н а т а ў н а

Здалося, дык хрысціцеся, суседка.
Да заўтра...

К а с а я

Іншым разам зазірну.

Крокі аддаляюцца.

М а р ы я І г н а т а ў н а

Цяпер святла да ранку не запаліш.
Бяда, калі сусед — не чалавек.

В е р а

Не даспадобы гэтае суседства...
Марыю неабходна адсяліць.
Мы з Тоняй — пачакаем...

Марыя Ігнатаўна

Што ж, паглядзім...
Вячэрайце, і ўсім — адпачываць.
Здарожыліся, пэўна... Добрай ночы.

Вера

Дабранач добрым людзям... Вам усім...

## 2

Той жа пакой у доме Вераб'ёвых. Глыбокая ноч. Цішыня. Каля акна пры скупым святле поўні сядзяць Марыя Ігнатаўна і Вера. Цікаюць ходзікі.

Марыя Ігнатаўна

Бог дасць, і дачакаемся світання,
А там паглядзім, як ісці далей.

Вера

Паглядзім на чарговае злачынства
Шалёных вурдалакаў.

Марыя Ігнатаўна *(хрысціцца)*

Не кажы...
Не ўсё табе, дачушка, расказала
Пра гнюсных крывасмокаў. Дзве сястры
Сінічкіны працуюць у сталоўцы...

Вера

Прабачце, дзе?

Марыя Ігнатаўна

На аэрадроме. Дзе ж...
Дык вось туды прывезлі неяк бульбу.
Драбнюткую, прамерзлую ушчэнт.

І загадалі разгружаць ды зносіць
У вёдрах у прыцемлены падвал.
Ахоўнік-немец пільна назірае,
Каб справа ўся рабілася як след,
Пакрыквае: «Шнэль! Шнэль!»
І кругам ходзіць.
Калі ж канец работы надышоў,
Набралі мужыкі ў кішэні бульбы.
Угледзеў немец, як засакатаў...
Ўсіх абшукалі... І — пад аўтаматы!
Сырую бульбу загадалі ім
Нямытую паесці. І — па кулі
За бульбінкі адважылі. І вось
Сіротак болей стала у пасёлку...

Вера

Злачынства... І каб менш яго было —
Мне сувязі надзейныя патрэбны.

Марыя Ігнатаўна

Прызнацца, я, дачушка, ад цябе
Даўно чакала гэтага пытання.

Вера

Без сувязных мне як без рук цяпер...

Марыя Ігнатаўна

Я адчувала гэта, разумела,
Таму і не пыталася ў цябе:
Хто ж будуць тыя школьныя сяброўкі?

Вера

Ад сэрца усяго удзячна вам...

Марыя Ігнатаўна

Падзякуеш, як справу добра зробіш.

Вера

Яна ў мяне цяжкая... Тут адзін,
Як ні цягні,— не возьмеш, не падымеш.

Марыя Ігнатаўна

Яршыстая ты, Ганна... Нібы жвір.
Усё намёкі толькі ды намёкі.

Вера

Прабачце, калі ласка, не адным
Сваім жыву я сёння даручэннем.

Марыя Ігнатаўна

І я якраз пякуся аб тваім,
Прабач, цяпер і нашым даручэнні...

Вера

Дык вось, каб стала яваю яно,
Мне і патрэбна ваша дапамога,
Патрэбны людзі... Вельмі шмат людзей,
Надзейных і адданых нашай справе.

Марыя Ігнатаўна

Ёсць людзі на прыкмеце. Далібог...

Вера

І каб ад немцаў недзе недалёка...
Аэрадроме... Станцыі... Ці дзе...

Марыя Ігнатаўна

Аэрадром?.. Сінічкіны ж працуюць.
Ну, у сталоўцы, тыя дзве сястры...
А на вакзале...

З-за шырмы выглядае Васіль, хваравіта, з надрывам кашляе. Вера спалохана войкае.

Марыя Ігнатаўна

Гэта ты, сынок?

Васіль

Канечне, я...

Марыя Ігнатаўна

Дык ты не спаў, сыночак?
Час позні ўжо...

Васіль

Аднак зусім не спаў.

Вера *(палахліва)*

І, пэўна, ўсю падслухалі гаворку?

Васіль

Не адмаўляюся... Пра той аэрадром
І пра людзей надзейных на вакзале...

Вера

А што яшчэ?

Васіль

Што помсціць немчуры
Нам трэба да апошняга дыхання,
А прыйдзе смерць, і гібеллю сваёй
Мы будзем гадам кроў студзіць
у жылах...
І пра Сінічак чуў. Пра дзвюх сястрыц:
Адна — Машутка, а другая — Даша...
Дзяўчаткі — гэта нашы сваякі.
Бацькоў забраў калісьці «чорны воран»,
Ды так і не вярнуў. Пасля вайны
Упэўнены, што неяк знойдуць звесткі

Пра тату з мамай... А цяпер пайшлі,
Каб не памерці з голаду, на службу
Ў сталоўку тую... На аэрадром...
*(Кашляе.)*

Марыя Ігнатаўна

Ты спакайней, сыночак, спакайней...

Васіль

Я не магу спакойна пра такое,
Бо ведаю, што выробляе гад
На нашай акрываўленай зямельцы.
Раней на Ўсход ён толькі зброю гнаў,
Параненых — на Захад... А сягоння
Дабро на Захад наша... І людзей...
Якія вочы у ахвяр бязвінных,
Якіх у рабства гоняць і на смерць,
З зямлі бацькоўскай гоняць на пакуты...

Вера

Вы, значыць, пры вакзале?

Васіль

Так, даўно.
Працую для Германіі Вялікай...
*(Зноў кашляе.)*

Марыя Ігнатаўна *(спачувальна)*

Ты спакайней, сыночак...

Васіль

Не магу.
Груган у родным доме ладзіць баль,
А Васька Вераб'ёў — партыец чэсны —
Варожыя ўсё лічыць эшалоны...
«Зялёны» шлях на фронт ім адкрывае.

Вера

А гэта арыфметыка, між іншым,
Нам вельмі добра можа паслужыць.

Васіль

І я падумаў так... Вы — загадайце,
Я выканаю ўсё як мае быць!

Вера

Калі ўсе лічбы добрым людзям трапяць,
То непамысна стане немчуры.

Васіль

А як знайсці мне тых людзей, скажыце?

Вера

Вось разам і падумаем пазней.

Падняўшыся на дыбачкі, Васіль дастае з-за абраза кнігу, з любасцю гартае яе старонкі.

Васіль

«Лісты на волю»... Польскай камсамолкі.
Прадмова — Крупскай... Выпала чытаць?

Вера

На жаль, не выпадала...

Васіль

А дарэмна...
За аўтарам тых полымных радкоў
На бітву і на смерць пайшоў бы смела.
*(Кашляе.)*

Марыя Ігнатаўна *(умольна)*

З гадзінку-дзве ты адпачні, сынок.
А раніцай падумаем мы разам...

4*

Васіль

Што, пра вакзал?

Вера

І пра сястрыц Сініц...
Пра тое, як наблізіць дзень наступны,
Які не прыйдзе сам без барацьбы!

## 3

Вечар. 5 кастрычніка 1942-га. На стале ў гасцінай Вераб'ёвых распушыў белыя вусы пузаты самавар. Цьмяна гарыць газавая лямпа пад папяровым саматробным абажурам. Гадзіннік-зязюля б'е пяць. Вера пераводзіць з яго позірк на Зосю.

Вера *(занепакоена)*

Чамусьці затрымаліся Сінічкі...
Такога не здаралася раней.

Зося

Але, але. Сабралі вось дзявочнік,
Ды без гасцей астыне хутка чай.

Вера

Сягоння ў нас не столькі
той дзявочнік —
Дзень нараджэння...

Зося

Чый жа?.. Ой, не мой.
Тваіх мы трыццаць дзевяць адзначалі
Мінулым тыднем.

Вера

Сына... Год яму.

Жыві, Сяргей Сяргеевіч Карнілаў,
Да сотні год!..

Зося

Віншую ад душы.

Вера

Які ён зараз? Пэўна, крышку ходзіць,
Лапоча штось дзіцячае, сваё...

Зося *(уздыхае)*

Шкада, Сяргей Гаўрылавіч не ўбачыў
Сынка...

Вера

Апошнім для яго стаў першы бой.
Корж адчуваў: Карнілаў напаткае
Сваю пагібель ў першым жа баі,
І затрымаць хацеў... Як затрымаеш
Таго, хто ў бой імкнецца ўсёй душой?
Не кулю напаткаў — чаргой прашыла
Яго пад Пінскам — толькі й прашаптаў:
«Скажыце Веры — хай гадуе сына...»
*(Паўза.)*
Гадую, дарагі мой муж Сяргей.
Твой сын Сярожа — твой працяг, надзея,
Хай будзе варты бацькі!.. Ну, а я
І за цябе, і за сябе, і сына
Адпомшчу супастатам. Кроў за кроў!..

Устрывожаны, у гасцiную ўваходзiць Васiль.

Васіль

Ўсім добры вечар!.. І нядобры вечар!..

Вера

Сядайце, пачастуем. Стыне чай.

Васіль

Не, дзякуй...

Зося

Што ж тут дзякаваць. Сядайце.

Васіль *(прысаджваецца)*

Ад вас не адгаворышся. Сяджу.

Вера

А то пакуль Сінічкі на падлёце,
Заледзянее чай...

Васіль

Так. Скразнякі...
Ніколі больш не прыляцяць Сінічкі.

Вера

Чаму не прыляцяць?

Васіль

Не прыляцяць...

Зося

Што, сувязь абарвалася?

Васіль

Не, горай...
Сустрэў іх толькі-толькі...

Вера

А далей?

Васіль

За імі — «хвост».
За кожным крокам сочаць.

З о с я

А як жа звесткі?

В а с і л ь

Звесткі у мяне.

В е р а

Дык дзе ж яны?

В а с і л ь *(падае Веры паперку)*

Употай перадалі
І стрымгалоў у адваротны бок...

В е р а *(разгортвае данясенне)*

Так!.. Так!.. Цудоўна, любыя Сінічкі!
Дай бог вам крылаў, шчасця і вясны.

В а с і л ь

Каб толькі абышлося ціха-мірна.
Яны яшчэ не тое прынясуць!

В е р а *(паўтарае, хаваючы данясенне)*

Каб толькі абышлося. Папярэдзіць
Сястрычак трэба. Сёння ж загадаць
Ім не расклейваць па начах лістовак,
Калі за імі прыляпіўся «хвост»...

В а с і л ь

Я паспрабую папярэдзіць ранкам,
Бо зараз — каменданцкі час...

В е р а

Але...
Баюся я, што заўтра будзе позна...

З о с я

Ну, а з чыгункай што ў нас?

Васіль

Я зрабіў.

Вера

Давайце.

Васіль *(з шапкі дастае лісток)*

Тут распісана да кроплі.
Усё, што ёсць на станцыі... І што
Прыбудзе у пачатку лістапада...

Вера *(чытае)*

Выдатна!.. Прыхапілі лістапад!

Васіль

Так, прыхапіў.

Вера

Ну, вы, Васіль,— знаходка.

Васіль

Стараюся.

Зося

От, зробім феерверк!
Кастрычнік мы як мае быць адзначым.

Вера *(падымаючы данясенне)*

Ўсё гэта тэрмінова перадаць
У штаб... Спяшайся, Тоня, да Марыі...

Зося

Мо разам сходзім?

Вера

Нельга нам удзвюх —
Не могуць звесткі гэтыя загінуць...

Васіль

А можа, я?

Вера

І нельга вам, Васіль.

Зося *(устае)*

Ужо гатова. Падрыхтуй шыфроўку.

У пакой, пахістваючыся, усхваляваная, уваходзіць Марыя Ігнатаўна, апускаецца на лаўку.

Вера

Што здарылася?

Марыя Ігнатаўна

Цяжка і сказаць.
Марыю толькі што арыштавалі...

Вера

Як? Дзе?

Зося

Калі? Ды не, не можа быць!

Марыя Ігнатаўна

Я на Смаленскім бачыла базары
З гадзіну, можа...

Вера *(усплясквае рукамі)*

От бяда, бяда!..

З о с я

Абыдзецца мо як?

М а р ы я І г н а т а ў н а

Ды не, дачушка,
У іх не абыходзіцца ніяк...
Бо арышт — смерць!

В а с і л ь

А я мо паспрабую?

М а р ы я І г н а т а ў н а

Ўсе клопаты дарэмныя, сынок,—
З тых кіпцюроў не вырвецца ахвяра.

З о с я *(разгублена)*

Што ж нам рабіць?

В е р а

А выйсце ў нас адно —
Праз партызан на цэнтр у час выходзіць
І думаць, як Марыю ратаваць.

4

Знаёмы пакойчык у доме Вераб'ёвых. Тая ж сціплая абстаноўка. Але на тварах В е р ы і З о с і — асаблівая святочнасць. На стале — гронка рабіны, некалькі каляных забранзавелых лісточкаў.

В е р а

Са святам цябе, Зосечка, са святам.
Кастрычніку сягоння — дваццаць пяць!

Зося

Цябе таксама, Верачка, са святам.
Са святам, самым першым на зямлі!
У гэты дзень душу перапаўняе
Дзівоснае, святое пачуццё,—
На вуліцы у светлых барвах восень,
А ў сэрцы абуджаецца вясна.

Пад акном прагула машына, спынілася.
Голас дыктара: «Ахтунг!.. Ахтунг!.. Увага! Увага!.. Жыхары горада Віцебска! Да вас звяртаюся я ад імя каменданта і нямецкіх улад, што прынеслі свабоду на нашу зямлю, якая стагнала пад бальшавіцкім уціскам...»

Зося *(скрозь зубы)*

Сабака брэша — вольны вецер носіць!

Вера

Цішэй, яны не будуць балбатаць,
Абы язык аб зубы біць...

Зося

Падлюгі!

Голас дыктара: «Большасць з вас добрасумленна працуе...»

Вера *(падміргвае)*

Пра нас.

Зося *(з'едліва)*

Інакш не можам працаваць.

Голас дыктара: «...на карысць Вялікай Германіі, войскі якой атрымліваюць адну перамогу за другой...»

Вера *(з'едліва)*

Відаць, Маскву ён мае на увазе.

Зося

Там атрымалі ёмка па хрыбце.

**Голас дыктара:** «Аднак у асяроддзе добрасумленных працаўнікоў прасочваюцца бальшавіцкія элементы, якія ўсімі сродкамі імкнуцца перашкодзіць стваральнай місіі нямецкай нацыі...»

Вера

А стыль які пыхлівы і узнёслы!

Зося

Пачне сабака фактамі брахаць...

**Голас дыктара:** «Учора ў Віцебску пры спробе распаўсюдзіць лістоўкі варожага характару былі схоплены сёстры Марыя і Дар'я Сінічкіны. Наймiткі бальшавікоў і партызан павешаны...»

Вера

Пакутніцы!

Зося

Ой, бедныя Сінічкі...

**Голас дыктара:** «Нямецкае камандаванне звяртаецца да насельніцтва горада з просьбай выкрываць бальшавікоў і партызан і перадаваць іх законным уладам...»

Вера *(з'едліва)*

Кажы, кажы... Законныя улады!

Зося

А зараз самы раз назваць цану...

Голас дыктара: «За кожнага бальшавіка і партызана нямецкае камандаванне выплаціць дзесяць тысяч марак».

Вера

Ці не прадзешавіш, брахач пракляты?

Зося

А ім абы, сабакам, пабрахаць!

Голас дыктара: «Асобы, якія садзейнічаюць бальшавікам і партызанам у іх злачыннай дзейнасці або ведаюць аб іх месцазнаходжанні і не паведамляюць аб гэтым нямецкім уладам, будуць асуджаны да пакарання смерцю...»

Гудзе машына, едзе далей.

Вера

Паехалі.

Зося

Ўсю музыку пачулі.

Вера

То — уверцюра. Музыку пазней
Паслухаем, парадуемся шчыра.

Выюць сірэны, гудуць самалёты.

Зося

Мо нашы?

Вера *(радасна)*

Нашы, любая. Свае!

Удалечыні чутны выбухі.

Зося

Чыгуначную станцыю прасуюць.

Вера

Кастрычніку салют!

Выбухі.

Зося

Лупі, браток!..
Цяпер — аэрадром.

Вера

То за Сінічак.
За Машачку і Дашачку...

Зося

За іх.
Цяпер, відаць, на новы круг заходзяць.

Выбухі.

Вера

А гэта, Зося, б'юць за нас з табой.

Зося

За Дусю... За Сярожку...

Вера *(цёпла)*

За Сярожку.
Лясная сувязь нас не падвяла...

Настойлівы стук у дзверы.

Зося *(палахліва)*

Няўжо за намі?

Вера

Не магу паверыць.
Пра адрас наш не ведае ніхто.
Сінічкіны не ведалі...

З о с я

А Дуся?

В е р а

Наўрад ці Дусю ім разгаварыць.

Зноў стук.

З о с я

Што, адчыняць?

В е р а

Няма другога выйсця.
А можа, ўсё абыдзецца?

З о с я *(устае)*

Пайшла.

Зося адчыняе дзверы.
Уваходзяць паліцаі Я ц у к і Б а ц я н к о ў.

Я ц у к *(Зосі)*

Што мордаю блішчыш, як самаварам?
Бамбёжцы рада?

З о с я

Падалося вам...

Б а ц я н к о ў

Калі нам падаецца, мы страляем.
Ці так, Яцук?

Я ц у к

Ты угадаў, Бацян.
Там рускія нямецкае ўсё трушчаць,
А тут красуні мордамі блішчаць.

Б а ц я н к о ў

Так... Непавага да улад нямецкіх.

Я ц у к

А можа, вы з пароды тых Сініц,
Якіх мы сёння... на Смаленскім рынку?

З о с я

Пан паліцэйскі, што вы!

В е р а

Мы — свае...

Я ц у к

А морды што блішчаць? Ці вы Кастрычнік
Збіраецеся сёння адзначаць?

Б а ц я н к о ў *(рагоча)*

Сініцы ўжо адзначылі...

З о с я

Ды што вы...

В е р а

Дзень нараджэння ў нас.

Я ц у к *(садзіцца за стол, Бацянкову)*

У час прыйшлі...
Дык будзем балявадь?

Б а ц я н к о ў *(апускаецца на лаўку, ставіць пляшку)*

Я піць люблю...

Я ц у к

Ну, пабалюем, бабы?

Каб больш да нас Кастрычнік не прыйшоў
З чырвонымі штандарамі... Каб свята
Было на нашай вуліцы...

Бацянкоў *(налівае шклянкі)*

Гы-гы...

Вера

За свята Нашай вуліцы!
Я веру: яму заўсёды быць,
Заўсёды жыць!..

5

Прывакзальны скверык. Раз-пораз чуюцца паравозныя гудкі. На адзінокай лаўцы — Вера. У яе руках — кошык. Асцярожна азіраецца па баках, як некага чакае. Міма праходзіць Васіль, прыцішвае крок.

Васіль *(шэпча)*

Вось толькі адшумела пагулянка.
Чыгуначныя служкі папаўзуць
Па хатах... Тут сядзець вам небяспечна,
Бо можа прычапіцца немчура.

Вера

Васіль, удзячна за перасцярогу.
Умоўленае ж месца пакідаць
Не маю права...

Васіль

Гэта небяспечна.
Мо лепей мне за вас застацца тут?

Вера *(цвёрда)*

Я выканаць усё сама павінна.

Васіль

Глядзіце, не трапляйцеся звярам.

Таропка Васіль знікае. Паяўляецца п'яны Рэкша пры ўсёй паліцэйскай амуніцыі.

Рэкша *(спявае)*

П'ём мы водку,
П'ём мы ром,
А дзе дзенежкі бяром?..
*(Заўважае Веру.)*
Ты часам не мяне чакаеш, краска?

Вера *(суха)*

Не вас...

Рэкша

А то пайшлі, я прыгарну...

Вера з агідай адварочваецца, Рэкша сунецца далей.

П'ём мы водку,
П'ём мы ром,
А дзе дзенежкі бяром?
Патрасём жыдочкаў,
Дзенежкі — на бочку-у-у!..

Знікае. Паяўляецца Алесь. У руцэ — такі ж, як у Веры, кошык.

Алесь *(радасна)*

Напэўна, я спазніўся?.. Добры вечар!
Відаць, вы зачакаліся?

Вера *(глядзіць услед Рэкшу)*

Але...
Тут швэндаюцца розныя падонкі.

Алесь *(праводзячы позіркам паліцая)*

Змяюка паліцэйская!.. Яго б...

Вера

Ты штосьці сёння ваяўнічы лішне.
Мо ўзнагароду заслужыў?

Алесь

Ды не,
Мяне у камсамол прымалі днямі.

Вера *(здзіўлена)*

Малога і адразу — ў камсамол.

Алесь *(горда)*

Я важнае выконваю заданне...

Вера

Якое ж?.. Калі толькі не сакрэт!

Алесь

Сакрэт.

Вера

Тады дапытвацца не буду.

Алесь

А чэсна... Я не ведаю і сам.

Вера

Чаму ж яно тады здаецца важным?

Алесь

Як Бацька ранкам з лесу выпраўляў,
Сказаў: «Глядзі, Алесь, каб кошык свой
у горад
Данёс... І — прама ў рукі перадаў,
Бо гэта вельмі важна».

Вера

Вельмі важна...
Такога не знайсці і днём з агнём.
Тут яйкі, сыр, і малако, і сала...

Алесь

Незразумела толькі мне адно...

Вера

Я слухаю, Алесік...

Алесь

Бацька кажа:
«Калі фашысты яйкі, масла, сыр
Намерацца забраць,— унук, маліся,
Калі ж памкнуцца малако забраць,
То корак з'еш...
Ці прыхавай надзейна...»

Вера *(хаваючы ўсмешку)*

Усё тут ясна — з нашых ён газет.
Савецкіх... Немчура учыніць допыт —
Адкуль і што...

Алесь *(з недаверам)*

Не-е, ўсё, відаць, не так...
Бо надта доўга над паперкай гэтай
Праседжваў дзядзька Коля...

Вера

Гэта хто?

Алесь

Са штаба ён. З Масквы да нас пасланы.
Узнагарод — мо дзесяць...

Вера *(супакойвае)*

І ўсё ж...
Уражлівы ты хлопчык. Дзядзька Коля
Імкнецца, каб надзейны корак быў,
Каб малако не скісла...

Алесь

Э-э, даволі...
Мяне на гэтым не... Не правядзеш.

Вера

Пра што ты?

Алесь

Малако маё не скісне —
Ў дарогу цётка Клава кіпяціць.

Вера

А цётка Клава хто?

Алесь

Радыстка наша.

Вера

Алесік, перадай падзяку ёй.
Гарэлым малако не патыхае...

Алесь

А яйкі?

Вера

Яйкі? Проста смаката.
Вялікія і свежыя...

Алесь

Заўсёды
Мы адбіраем лепшыя для вас.
Каб моцнымі былі. А наша сала?

Вера *(смяецца)*

Смачней не выпадала каштаваць.

Міма праходзіць Касая, прыслухоўваецца.

Алесь

З тмінком і часначком яно, дарэчы.

Вера

Цудоўна!
*(Падае Алесю боты.)*
Вось і боты на абмен.
Стаптаныя крыху, ды ў вёсцы пойдуць.
Нямецкія...

Алесь

Нямецкіх не вазьму —
Саромеюцца ў іх выходзіць людзі.

Вера *(строга)*

Алесік! Трэба ўзяць!
*(Перадае яму боты.*
*Неўпрыкмет забірае яго кошык.)*
І — уцякай.

Алесь *(устае)*

Да пабачэння.

Вера

У добры шлях, Алесік!

Алесь знікае, нечакана паяўляецца Касая.

Касая

Суседачка, няблага жывяце.

Вера

Чым бог пашле.

Касая

Ад Вераб'іхі веры нахапалі?

Вера

Я веры не губляла. Што ж хапаць?

Касая

А з кім ты гэтак пекна размаўляла?

Вера *(між іншым)*

Вясковае дурное хлапчанё...
Мне на абмен
Прыносіць часам ежу...

Касая *(перабівае)*

І дурню бачна — госць не гарадскі.
А лесам пахне — на вярсту...
І дымам...
Такім трывалым дымам з касцярка!..

Вера

Мы з хлапчанём сустрэліся на рынку,—
Вось неяк і дапамагае жыць.

Вяртаецца Рэкша, спявае.

Рэкша

П'ём мы водку,
П'ём мы ром...
*(Заўважае Касую.)*
А во ты дзе, Касая!.. З паўгадзіны
Цябе ніяк не ўтраплю адшукаць.
Ёсць справа...

Касая

Я ад справы не ўцякаю...
*(Ідзе да Рэкшы, паварочваецца да Веры.)*
З табой мы нагаворымся яшчэ...
*(Падміргвае, знікае з Рэкшам.)*

Вера *(застаўшыся адна)*

Як толькі свет такую пошасць церпіць?..
Нібы змяя па сэрцы прапаўзла...
Трывожна неяк... Але досыць, досыць!
Спраў столькі, хоць касою іх касі...

## Частка другая

### 6

Ускраіна Віцебска. Вячэрні прыцемак. Схаваўшыся за хмызняком, Вера і Зося пільна сочаць за фашыстамі.

Побач гудзе нямецкі аэрадром.

Вера

Глыбока закапаліся, звяругі,
Загналі самалёты пад зямлю.

Зося

Так, гэтыя падземныя ангары —
Углыбіню не менш як метраў пяць.

Вера

Нічога, і адтуль іх пацягаем
І зноў у дол загонім на спакой.
Каб ніколі больш не выпаўзалі...

Зося

Ты верыш — іх дастануць бамбары?
Ангары не ўратуюць?

Вера

Веру так,
Як веру ў нашу, Зося, перамогу,
Што свастыку патрушчыць назаўжды,—
Не тое што ангары...

Зося

От дажыць бы!
Ты чуеш, Вера,— каб на ўсёй зямлі
Не ведаць людзям больш жахлівых
войнаў.

Праз дзесяць, дваццаць, трыццаць,
сорак год...
Не верыцца ажно...

Вера

Так будзе, Зося!..
З удзячнасцю згадаюць людзі тых,
Хто набліжаў святую Перамогу,
Хто не прыйшоў з вайны...

Зося

Згадаюць і Сінічкіных-сястрычак,
і нашу Дусю...
О-о, Дуся, Дуся... Ці жыве яна?

Вера

Трымаецца... Бо мы ж з табой — на волі.

Зося *(усхліпвае)*

Ох, Дусечка...

Вера

Цішэй. Не плач... Цішэй....

Зося *(выцірае слёзы)*

Крывавую на небе бачыш зорку?

Вера

Вунь тую? Бачу...

Зося

Горка на душы,
Што хоць памры!

Вера

Не думай пра благое.
Пра лепшае згадай.

З о с я

А дзе яно?

В е р а

У небе недзе, каля самых зорак
На Віцебск самалёты курс бяруць.
На крылах — зоркі...

З о с я

Добра так гаворыш,
Нібыта чуеш іх знаёмы гук.

В е р а

Я чую сапраўды... Гудуць маторы...

З о с я

Мо сэрцам чуеш?

В е р а

Сэрцам... І душой...

З о с я *(прыслухоўваецца)*

Няма... Не чую... Ведаеш — не варта
Было табе ісці... Рызыкаваць...
Хіба ж сама я не падам сігналы?

В е р а

Не, Зося, я пайшла, і недарма,
Бо гэта ж наша першае заданне,
Галоўнае!.. Разбіць аэрадром
І знішчыць баявыя самалёты.

З о с я

А раптам схопяць? Хто, скажы, тады
Давершыць справу?

В е р а

А хіба нас мала?
Даробяць справы іншыя за нас.

З о с я

Але ж наказ. Наказ Панамарэнкі,
Перасцярога Бацькі...

В е р а

Зберагаць
Сваіх дачок, сваіх сыноў — задача
І камандзіраў нашых, і бацькоў.
На тое і вайна. Ды нейкіх правіл,
Напісаных на ёй, не можа быць.
Сама вайна... Яна як выключэнне...
І сёння хай не будзе нас з табой —
У штаб дакладна прыйдзе данясенне:
У Віцебску ж дзесяткі моцных груп
Выконваюць падпольную работу...
Да нашай небяспечнай мужнай справы
Мы сотні далучылі змагароў...
Іх не зваліць... Іх не зламаць...
Не знішчыць...

Гудзенне самалётаў.

З о с я *(з палёгкай)*

Нарэшце прыляцелі!.. Малайцы!

В е р а

Пайшлі заходзіць. Пачакай з сігналам.

З о с я

На падыходзе будуць, і падам.

Вера

Крыху раней. Прыкідку дай
на хуткасць.

Зося

Даваць?

Вера

Яшчэ хвілінку.

Зося

Ну?

Вера

Давай?

Гудзенне самалётаў, выбухі.

Зося *(задаволена)*

Наш першы блін не комам.

Вера

Ангары разбамбілі. Ух — гарыць!..

Зося

Дык гэта ж бензасховішча!

Вера

І добра!
Заходзяць, пэўна, на чарговы круг...

Сігнал сірэны.

Зося

Сірэна, Вера!.. Гэта ўжо аблава.
Аж сэрца стыне... Трэба уцякаць...

Вера

Цяпер няможна. Трэба адбамбіцца
Ім поўнасцю...

Зося

Нам нельга больш чакаць.

Вера

Пакінуць пост? Хто даў такое права?

Брэх сабак.

Зося

Аўчарак паспускалі...

Вера

Не бяда...

Зося

Хутчэй бяжым. Магчыма, і паспеем.

Вера

Яшчэ хвілінку...

Зноў набліжаюцца самалёты.

Зося

Вера!

Вера

Дай сігнал!

Выбухі, крыкі гітлераўцаў, брэх сабак.

Зося

Яшчэ адзін ангар!.. Апошні самы!
Цяпер фашысту ў неба не ўзляцець!

Брэх сабак зусім побач.

Вера *(спакойна)*

Хутчэй бяжым... У гарадскіх руінах
Не адшукае нас ніводзін чорт...
Удалая ў нас, Зосечка, прагулка.
Такіх бы больш — і Гітлеру канец!

## 7

У доме Вераб'ёвых на Трактарнай усё перавернута дагары нагамі. Толькі на акне з прыадчыненай фіранкай адзінока шашэрыцца альяс — знак, што яўка не правалена. Зараз тут гаспадараць паліцаі Яцук і Бацянкоў. Васіль і яго жонка Агаф'я стаяць са звязанымі рукамі. Груба прывязаная да крэсла, стогне Марыя Ігнатаўна.

Яцук

Ну, што ты стогнеш, як карова?
Дзе пастаяльцы — скажаш нам ці не?

Марыя Ігнатаўна *(ціха)*

Н-не ведаю...

Бацянкоў

Лепш гавары, дзе бабы!
Не то падсмалім лохмы — і канцы!

Марыя Ігнатаўна

Н-не ведаю...

Яцук

Ды што з ёй гаварыць!
Распальвай прымус — пяты будзем
смажыць.

Марыя Ігнатаўна

Вы — нелюдзі... Ў вас маці не было...

Яцук *(замахваецца на Марыю Ігнатаўну)*

Не рохкай, бо дастану да пячонкі.

Бацянкоў

Пры іспалненні рукі распускаць
Не дазваляй, Яцук!

Яцук

Ну, годзе, годзе...
А што ж пры іспалненні распускаць?..
*(Ківае ў бок Агаф'і.)*
Каб гэная дзябёлка екатала...

Бацянкоў

Напэўна, застаялася... Гы-гы...

Марыя Ігнатаўна

Цяжарная яна...

Яцук

А мне не страшна.

Бацянкоў

Па мне абы...

Марыя Ігнатаўна

І хворая.

Яцук *(разумеючы)*

То — горш!
А то б мы улагодзілі... Як выпіць...

Бацянкоў

І хутка б улагодзілі... Гы-гы...

Васіль *(кашляе)*

Звяругі!

Яцук *(Васілю)*

Ты, сухоціна, жывы йшчэ?
І каўкаеш?

Бацянкоў *(б'е Васіля)*

Дзе пастаялкі? Дзе?
Саобшніцы твае!

Васіль *(кашляе)*

Адно — звяругі!..

Яцук

Ды не, брат! Мы — анёлкі. Вось калі
Да Вівенса і Рэкшы дапаўзеце —
Ўсе жылы павыцягваюць з нутра.
І кастамашкі прутам peралічаць...

Агаф'я *(мужу)*

Маўчы, Васіль... Маўчы, а то заб'юць.

Яцук

Яна яшчэ цілікае, падсцілка!
Дзе пастаялкі? Дзе? Кажы хутчэй!

Агаф'я

Не ведаю нічога.

Яцук

А сквігочаш.

Бацянкоў *(замахваецца)*

Куды яго саобшніцы пайшлі?

Агаф'я

Не ведаю.

Васіль *(кашляе)*

Яна не можа ведаць...

Яцук

Дык можаш ведаць ты, сухот?
*(Бацянкову.)*
Бацян!

Бацянкоў *(б'е Васіля)*

Дзе кватаранткі могуць ашывацца?

Васіль *(стогне)*

Адкуль мне ведаць...

Яцук

Гадаўкі...
Нібы
Ў пясок сышлі струмені дажджавыя...

Бацянкоў

Нічога, дакапаемся да іх...

Асцярожны стук у акно.

Яцук

Бацян, ты тут пільнуй арыштаваных,
А я ўлаўлю за патлы стукача...

Ідзе да дзвярэй. Бацянкоў шчоўкае затворам.

Бацянкоў

Спячэцца зараз нехта... Гы-гы-гы...

Яцук выходзіць. Зноў стук у акно.

Марыя Ігнатаўна *(крычыць)*
Паліцыя, бяжыце!

Бацянкоў хоча стрэліць у Марыю Ігнатаўну, але карабін дае асечку.

Бацянкоў *(б'е яе прыкладам)*

Пакрычы!

Яцук *(вяртаецца, абтрэсваецца)*

Пацан прыблудны. Пэўна, старчанё!
Я да яго, а ён у ногі, поскудзь.
Вось я і паваліўся... Азірнуўся,
А гэтага дзярма і след прастыў.

Бацянкоў

А раптам — сувязны? Падумаць страшна.
Начальства скуру зніме...

Яцук

Не кажы...
Сапліўца сувязным не пасылаюць.
То — пабірушка... З берага Дзвіны...
Дзесяткі іх жыве сабе пад лайбай,
Старцуючы на хлеб... Ды ад яго ж
І дымам патыхае...

Марыя Ігнатаўна *(ціха, сабе)*

Слава богу...

Яцук *(Марыі Ігнатаўне)*

Да бога недалёка ўжо табе.

*(Бацянкову.)*

Што ж кулю не загнаў у брух?

Бацянкоў *(вінавата)*

Асечка...

Яцук *(дакорліва)*

Асечка... Праз цябе і гэны збег.

Бацянкоў *(спалохана)*

Як — праз мяне? Не праз мяне!..

Яцук *(насядае)*

А пашчу
Чаму старой ты куляй не заткнуў?
Яна і падала сігнал да ўцёкаў...

Бацянкоў

Дык я ж...

Яцук *(перадражнівае)*

«Дык я ж...» Што Вівенсу сказаць?

Бацянкоў

Я-я...

Яцук *(перабівае)*

Ты!.. Не я, а ты статут парушыў.

Бацянкоў *(пераміпаецца)*

Скажу — асечка... І што з ног цябе...

Яцук

Мяне?

Б а ц я н к о ў

Дык не мяне ж... Ты сам расказваў...

Я ц у к *(пагрозліва)*

Я не расказваў... Ну, а ты — не чуў.

Б а ц я н к о ў *(здзіўлена)*

Як гэта?

Я ц у к

Так... І не было малога...
Ты зразумеў?

Б а ц я н к о ў

Ды як не зразумець.

Паспешлівыя крокі ў сенцах.

Я ц у к *(прыкладвае палец да вуснаў)*

Цс-с-с, вы... Стаіцеся, як мышы.

Б а ц я н к о ў *(шчоўкае затворам)*

Цяпер не памылюся — пекану!

Уваходзяць В е р а і З о с я.

Я ц у к *(ялейна)*

Карнілава з Заською...
З прагулкі, пэўна?
Мы ў госці вось прыйшлі, а вас няма.
Дык гэта ж, дарагія, непавага
І да сябе, і да сваіх улад...
Тут трэба разабрацца...
*(Рэзка.)*
Рукі ўгору!
Цяпер мы нагаворымся...

Паяўляецца К а с а я.

К а с а я *(з'едліва)*

Ну, як?
Я высачыла, навяла... Бандыткі
Нам не даюць спакойна, ціха жыць...

Я ц у к *(груба)*

А ты адкуль, Касая? Прэч з дарогі,
У Вівенса усё удакладнім.
Хто высачыў, хто вынюхаў...

Б а ц я н к о ў *(да Веры і Зосі)*

Ну, досыць!
Прашу, паненкі, ў госці і да нас!

## 8

Кабінет начальніка СД Вівенса. На стале, побач з тэлеграфным апаратам, пачатая пляшка шнапсу. Акрамя гаспадара ў кабінеце паліцаі Я ц у к і Б а ц я н к о ў, нямецкая прыслугачка К а с а я. В і в е н с адлічвае Касой маркі.

К а с а я

А я адразу ўнюхала — не тое...
Адразу столькі родных прыплыло!
І розныя ўсе... Густа пахнуць лесам...
Падумала: сарву за гэта куш...

В і в е н с *(кідае правакатарцы грошы)*

Бяры, бяры... Тут болей, чым Іуду
Плацілі... Не саромейся, бяры.

К а с а я *(прагна зграбае грошы)*

Пан афіцэр, удзячна вам сардэчна...

Вівенс

А ведаеш, чаму мы плацім больш?

Касая

Пан афіцэр, адкуль мне, цёмнай,
ведаць?
Вам ведаць — вы разумны чалавек.

Вівенс *(смяецца)*

Таму, што прадала нам не Хрыстоса,
А вывадак чырвоны прыняла.

Касая

Германіі служу усёй душою...

Вівенс *(агідліва махае рукой)*

Цяпер ідзі!

Касая *(угодліва гнецца, блудліва міргае)*

Для вас, пан афіцэр...

Вівенс *(сярдзіта гукае)*

Гэй, Рэкша!..

Убягае падручны Вівенса паліцай Рэкша.

Да дзвярэй праводзь Касую.

Рэкша *(хапае Касую за валасы)*

Мы гэта хутка!.. Падла, ізыдзі!

Вівенс *(Рэкшу)*

За дзверы я прасіў яе праводзіць,
А ты адразу цягнеш на той свет.

Касая *(з дакорам, Рэкшу)*

Культура!

Рэкша

Змоўч!.. Не то — другое вока
Пакінеш на памыйцы...

Вівенс *(рэзка)*

Вэк адсюль!

Рэкша і Касая знікаюць.

Яцук

А нам калі?

Вівенс

Што вам?

Бацянкоў

Ну, грошы... Маркі...

Вівенс *(здзіўлена)*

За што вам маркі?

Яцук

Мы ж былі пры ёй.

Бацянкоў

І вывадак загналі прама ў невад.

Вівенс

Паглядзім, што за рыбіны у ім.

Яцук

Яны — адтуль... Такіх не пражывала
На Трактарнай ніколі да вайны.
І ў госці не заходзіла...

Бацянкоў

Я фоткі
Паказваў... Іх ніхто не пазнае.

Вівенс

І што з таго?
Ці ж гэта сёння важна —
Бывалі тут, жылі ці не жылі?..

Бацянкоў

А фоткі?

Вівенс

Рэшта можа чалавека
За дзве гадзіны так адпрацаваць,
Што маці не пазнае.

Яцук

А засада?
А небяспека?

Бацянкоў

І ўсё — без страт.

Вівенс *(пасміхаецца)*

Аб'ект на вас выводзіла Касая.
А з бабамі змагацца...

Яцук

Партызан
Аднолькавы — ён баба ці мужчына...
І кулі, і гранаты ў іх адны.

Вівенс

Касая ж час для арышту назвала!

Яцук

Было...

Вівенс

А вы — засада. Проста смех.

Яцук

Але ж вайна, пан афіцэр, і плата
За галаву прызначана даўно.

Бацянкоў

Прызначана... Але...

Вівенс *(з хітрынкай)*

А ад начальства
Утойваць праўду хто вам дазваляў?

Яцук

Пан афіцэр, ды што вы?

Бацянкоў

Мы ніколі.
Мы перад вамі, як перад Хрыстом.

Вівенс *(свідруе паліцаяў вачамі)*

Вам гэта ведаць лепш...

Яцук

Мы ўсё па гэтай...
Інструкцыі рабілі...

Бацянкоў *(хрысціцца)*

Крэст святы.

Вівенс

А дзе малы?

Я ц у к *(нібыта здзіўлены)*

Малы?

В і в е н с *(рэзка)*

Хто праваронiў?

Б а ц я н к о ў

Даруйце... Я...

Я ц у к *(спрабуе выкруціцца)*

Якога пацана?

В і в е н с

Таго, што быў на яўцы.
Ў шыбу стукаў...

Я ц у к *(адступае)*

А-а, абадранец... Гэта мелката...
Мяняе транты...

В і в е н с

Ён мяняла, кажаш?

Б а ц я н к о ў

Так... Так...

В і в е н с

А наш надзейны чалавек
Данёс, што той мяняла пахне лесам
Ды з выгляду зусім не гарадскі...

Я ц у к *(скрозь зубы)*

Касая, сучка!

Б а ц я н к о ў

З басякоў ён, пэўна.
Цяпер малых багата басякоў...

Вiвенс

Балбочаце... Прамашку дапусцiлi.

Бацянкоў

Дазвольце змыць яе сваёй крывёй.

Вiвенс

Сваёй не трэба... Бальшавiцкай трэба!
*(Налiвае палiцаям шнапс.)*
Вось вам i плата...
Рэкша!

Убягае Рэкша.

Партызан!
Для допыту — сюды!

Рэкша выбягае.

Цяпер чырвоны колер
Нам будзе спадарожнiчаць... Давай!

Рэкша ўводзiць Веру i Зосю.

Рэкша

Што? Пачынаць?

Вiвенс

Я сам пагавару.
*(Да Веры.)*
Як прозвiшча, iмя, iмя па бацьку?

Вера *(спакойна)*

Карнiлава... Ганна Сяргееўна...

Вiвенс

Сапраўднае!

Вера

Карнілава...

Вівенс *(да Зосі)*

А ваша як?

Зося

Засько.

Вівенс

Як? Як?

Зося

Засько...

Вівенс

Ну, хопіць... Нагуляліся у жмуркі,
Цяпер пара ўсё ладам расказаць...

Вера

Няма чаго дадаць. Я ўсё сказала.

Вівенс *(да Зосі)*

А вам?

Зося

І мне няма чаго дадаць.

Вівенс

Спачатку у СД усе — анёлы.
Не маюць ні дадаць, ні перадаць...
А потым разазхвоцяцца, ракою
Цячэ — не спыніш — слоўная вада...

Вера

Я ўсё сказала...

Зося

Я, як незнаёмка...

Вівенс *(рэзка)*

Тады давай Пятроўскую сюды!

Рэкша ідзе да дзвярэй.

І д'ябальскую не забудзь машыну.
*(Веры і Зосі.)*
У ёй каменне ўмее гаварыць...

Рэкша ўводзіць акрываўленую Дусю.

Пятроўская пра ўсё, пра ўсё
напомніць...

Рэкша кідае яе ў крэсла, пакручвае абруч.

Усё раскажа...

Дуся *(стогне)*

Піць!.. Ва-ды... Вады...

Вівенс

Вады ёй, Рэкша!

Рэкша дае Дусі вады. Тая прагна п'е.

Гавары нам, дзетка...

Дуся *(ціха)*

Нічога я не ведаю...

Вівенс

Шкада.
Тады на іншай мове пагаворым...
Ну, Рэкша!

Рэкша скручвае гайкамі абруч на галаве Дусі.

Хутка!.. Прозвішча?.. Імя?..
Круці мацней! Яшчэ! Яшчэ! Штосілы!

Д у с я *(шэпча)*

Ох, Вера!.. Паміраю я... Бы-вай...

В і в е н с *(крычыць)*

А прозвішча?!

Р э к ш а

Канцы!..
Памерла баба...

В і в е н с

Памерла...
*(Ківае на Веру і Зосю.)*
Значыць, гэтых калупнём.
Да Штрауха!.. Ну, хоць імя,
ды ёсць...
Для Штрауха зачэпка. Штурмбанфюрэр
З адной зачэпкай высветліць усё!..

## 9

Кабінет штурмбанфюрэра СД Штрауха. Шыкоўная мэбля, у распаленым каміне — вялізныя абцугі. Тут сабраліся ўсе «крывавых спраў майстры» ў Віцебску. Акрамя Ш т р а у х а — начальнік СД В і в е н с, яго падручны Р э к ш а. На табурэце — В е р а.

В і в е н с *(ласкава)*

Прыгожае імя ты маеш — Вера...
Таварыш Вера будзе гаварыць?

В е р а

Карнілава я... Ганна, а не Вера.

Вівенс

Было названа вашае імя.

Вера

Вы блытаеце...

Вівенс

А ўчарашні допыт?

Вера

Ці мала што...

Вівенс *(Штрауху)*

Не хоча гаварыць.

Рэкша *(робіць крок да Веры)*

Умомант загаворыць. Дайце згоду.
Як тая — загаворыць у мяне!

Вівенс *(незадаволена)*

Прэч, касталом!

Рэкша адступае.

Штраух

Не трэба больш эмоцый.
Спытайцеся ў падшэфнай, а адкуль
Знаёма ёй Панкова... Ці Карловіч...
Яна ж — Маруся...

Вера

Ведаць не магу...

Штраух *(бярэ аркуш паперы, чытае)*

«Панкова Соф'я Сяргееўна... Яе псеўданімы я называў... Нарадзілася ў верасні 1902 года ў

вёсцы Міхалін Слонімскага раёна на Гродзеншчыне. З рабочых. Член бальшавіцкай партыі з 1919 года... Скончыла ў 1926 годзе Маскоўскі педагагічны інстытут. Пасля была на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі. Дэлегат Першага з'езда КПЗБ. У 1928 годзе была арыштавана. Чатыры гады правяла ў польскіх турмах. І зноў падпольная работа. І зноў арышт. Прыгаворана да дванаццаці гадоў зняволення. Знаходзілася ў турме ажно да сталінскага паходу ў Заходнюю Беларусь...»

Вера *(цвёрда)*

Не ведаю такой.

Штраух

Шкада... Дарэмна...
А то б з задавальненнем расказаў,
Што вам яна даводзіцца сяброўкай...
Турма мацуе дружбу... Як?

Вівенс *(злуецца)*

Маўчыць.

Вера

Не ведаю Панковай...

Вівенс

Рэкша! Хутка
Сюды!.. І каб была яшчэ жывой.
А то мазгі ты майстар выпускаць,
Як той Пятроўскай...

Рэкша

Будзе ўсё як след.
*(Выходзіць.)*

Штраух *(з усмешкай)*

Панкова сустракаецца з Харужай...

Вера

З такой не мела гонару дружыць...
Мы не знаёмы з ёй...

Штраух

То вы дарэмна.
Асоба легендарная...

Вера *(цвёрда)*

Але...

Штраух *(зноў бярэ паперку, чытае)*

«Харужая... Вера Захараўна... Нарадзілася ў верасні 1903 года ў Бабруйску... У 1919 годзе закончыла Мазырскую адзіную працоўную школу другой ступені. Настаўнічала ў сельскай мясцовасці. Калі ў 1920 годзе ў Мазыр увайшлі часці Чырвонай Арміі, уступіла ў камуністычны батальён. Прымала ўдзел у баях супраць Булак-Булаховіча. Была прынята ў камсамол. Супрацоўнічала з атрадамі чонаўцаў. Працавала ў Мазырскім укоме камсамола, Бабруйскім укоме. У 1921 годзе яе старанне было аплочана — яна была прынята ў члены бальшавіцкай партыі...» Я правільна сказаў?

Вера

Але навошта?

Вівенс *(з'едліва)*

Ёй нецікава гэта.

Штраух

Ну, няўжо?

Вера

Мне прозвішча Харужай невядома.

Штраух *(ківае галавой)*

Нядобра як! Нядобра! Ай-яй-яй...
Паслухайце тады, хоць перад смерцю,
Пра бальшавічку... Ваша моладзь ёй
Заўсёды ганарылася...

Вівенс *(Веры)*

Дык слухай!

Штраух

«У 1921 годзе Харужая... Вера... стала членам бальшавіцкай партыі. Зноў камсамольская і журналісцкая работа. У лютым 1924-га накіроўваецца для падпольнай дзейнасці ў Заходнюю Беларусь. Праз год — першы арышт. Праз тры — суд у Брэсце асуджае яе да шасці год зняволення. Гніць бы ёй за кратамі ў жаночай турме «Фардон», каб не абмен палітзняволенымі ў 1932-м. І яна трапляе ў Савецкую Расію...» Складна?

Вера

Так... Гэта ўсё вы гаварылі складна.
Не разумею толькі — я пры чым?

Вівенс *(губляючы раўнавагу)*

Мы кукаваць так будзем вельмі доўга,
Даволі!.. Скуру трэба паздзіраць!..

Штраух

Спакойна, Вівенс. Нервы — не патрэбны.
А то прачнуўся ў вас драпежны звер.

Вівенс

Пісаў калісьці мой настаўнік Шпенглер: «Называючы чалавека драпежным зверам, каго я крыўджу: чалавека ці звера?.. Бо вялікія драпежныя звяры — гэта высакародныя стварэнні дасканалага тыпу, чужыя лжывай чалавечай маралі, народжанай слабасцю».

Штраух

Разумны ваш настаўнік... Сапраўды...

Вівенс

Тады навошта гульні ў сентыменты?
Саплівую гуманнасць — па хрыбце!

Штраух

Вялікі Гітлер пра гэта ўсё зазначыў у «Майн кампф»: «Гуманнасць — гэта мешаніна глупства, баязлівасці і высакамернай ганарыстасці. У вечнай барацьбе чалавецтва стала вялікім. І толькі ад вечнага міру яно можа загінуць».

Уваходзяць Рэкша і Зося.

Вівенс *(незадаволена)*

Ты, Рэкша, дзе так доўга затрымаўся?..
Мо цешыўся?..

Рэкша

Не-е... Ледзь раскатурхаў.

Вівенс *(Зосі)*

Тут напачатку можна разаспацца —
Забудзеш потым, што такое сон.

Штраух *(злуючыся)*

Даволі дэкларацый вашых!.. Хопіць!..
Мне прозвішчы і яўкі падавай!

Вівенс

Ўсё будзе ў час...
І прозвішчы, і яўкі.

Штраух

Калі той час?.. Скажыце мне, калі?

Вівенс

Улічваць трэба рускую зацятасць...
Ды іх характар...

Штраух

Вівенс! Не круці!..
Начальнікам СД вас прызначалі —
Тады вы пра зацятасць ні гу-гу...
Вы думаеце вельмі павярхоўна,
Бо беларусам з даўняе пары
Была ўласціва шчырасць і адкрытасць,
Даверлівасць, гасціннасць...
Рэкша, так?

Рэкша

Так. Так, пан штурмбанфюрэр. Уласціва...
А тых, хто не ў дугу,— тых у абруч
Ды гайкі — круць!.. І хрась,
і хрась галовы...

Ш т р а у х *(усміхаецца)*

Работа наша не зусім і хрась...
Вось тое «хрась» апошняй будзе справай.
*(Да Зосі.)*
Та-ак...
Прозвішча сапраўднае?

З о с я

Маё?

Ш т р а у х

Саўдзельніцы!

З о с я

Карнілава... вось гэта...
Саўдзельніц я не ведаю...

В і в е н с

Маўчаць!

Ш т р а у х *(да Веры)*

А прозвішча Засько?

В е р а

Засько і будзе...

Ш т р а у х

А хто з вас Вера?

З о с я

Веры тут няма...

Р э к ш а

А я што гаварыў?..
Абруч астыне...
Даўно б ґаловы, як арэхі,— хрась!

Ш т р а у х

Што Вераб'ёвы?

В і в е н с

Ўпарцяцца...

Ш т р а у х

Сюды іх!

Р э к ш а выбягае.

Яны — дзярмо.
Што возьмем — з гэтых дзвюх?..

В і в е н с

Але ж і тыя...

Ш т р а у х

Тых пара да сценкі.

Р э к ш а ўводзіць М а р ы ю І г н а т а ў н у, В а с і л я, А г а ф' ю.

Ш т р а у х *(да Васіля, паказваючы на Веру і Зосю)*

Іх прозвішчы?

В а с і л ь

Карнілава... Заська...

Ш т р а у х *(да Агаф'і)*

Мо ты больш разумнейшай будзеш, дзеўка?
Іх прозвішчы?

А г а ф' я

Карнілава... Заська...

Штраух

Зайздросная, але тупая ўпартасць...
*(Да Марыі Ігнатаўны.)*
Іх прозвішчы?

Марыя Ігнатаўна

Карнілава...
Заська...

Вівенс

Вось, бачыце!

Рэкша

Мо мне абруч прымераць?

Штраух

Прэч!... Нам гуманнасць зараз даражэй.
*(Веры і Зосі.)*
Даю на роздум роўна тры хвіліны.
Змаўчыце —
Вераб'ёвых да сцяны!
*(Веры.)*
Як прозвішча?

Вера

Карнілава.

Штраух

Хвіліна...
*(Зосі.)*
Як прозвішча сапраўднае?

Зося

Заська!

Ш т р а у х *(да Рэкшы і Вівенса)*

У двор іх!

Р э к ш а і В і в е н с выводзяць В е р а б' ё в ы х.

І сплыла яшчэ хвіліна...
Ну?..

Маўчанне.

Самі ж вы выносіце прысуд...

Маўчанне.

Плі!

Чуюцца стрэлы. Вера і Зося скалануліся.

У камеры упартасць вашу выб'юць.
*(Тупае нагамі, вішчыць.)*
У мех каменны іх і ў абарот!

## 10

Змрочная камера віцебскай турмы. Пад столлю ледзьве ліпіць электрычная лямпачка ў металічнай сетцы. У каменным мяшку для смяротнікаў двое — В е р а і З о с я. За дзвярамі чутны крокі вартавога.

В е р а

Дакладна, як у Польшчы, у «Фардоне»
Сядзелі мы пятнаццаць год таму.

З о с я

Не, не зусім дакладна.

Вера

Больш камфорту?

Зося

Тут камера асобая для нас!

Вера

Смяротнікаў...
І, як сказаў нам Штраух,
Упартасці пазбавіць нас навек...

Зося

А ведаеш — цяпер зусім нястрашна
Памерці нават...

Вера

А раней?..

Зося

Было...
Калі у белапольскай дэфензіве
Таварышаў знішчалі... Юнакам
У лёгкія ганялі помпай вапну,
Жывых яшчэ, цягнулі на крукі,
Зацкоўвалі аўчаркамі... Звяругі!
Пярэваратні, як гайня ваўкоў.
Заплюшчу вочы — дзікі крык згадаю:
Калечыла аўчарка юнака...
Таму ж было гадоў семнаццаць, пэўна...
Дзяўчыны мо яшчэ не цалаваў...

Вера

Самому перажыць пакуты трэба,
Каб іншых зразумець, паспагадаць...

Навошта толькі разумець пакуты?..
Для шчасця ў свет прыходзіць чалавек!

Зося

Але ці можаш ты сказаць сягоння,
Што пражыла шчаслівае жыццё?

Вера

Магу! Я пражыла жыццё шчасліва.
Хоць зведала і голад, і нуду,
Заробкі ў кулакоў, сутычкі з бандай
І чонаўскі крылаты наш атрад...
Я зведала падполле, катаванні
І трупны дух у катаржнай турме,
Убачыла фашысцкіх гадаў твары
І як памёр каханы чалавек.
Мой муж —
Сяргей Сяргеевіч Карнілаў...
Ёсць у мяне любімы сын — Сяргейка,
Ёсць Анечка — любімая дачка...
Ім жыць і жыць. І радавацца сонцу.
Мы сонца не дадзім у іх забраць...
Як і ў Радзімы сонца... Не дадзім!..

Зося

Няўжо ты, Вера, ў гэтыя хвіліны
Не думаеш аб страчаным навек?..

Вера

Шкадую — вельмі мала крывасмокаў
Я забяру з сабою на той свет.

Зося

І я аб тым шкадую... І шкадую,

Што мы памром пад прозвішчам чужым.
Што знікнем безымянна...

Вера

Безымянна?..
Не трэба так. Не трэба гаварыць.
Час прыйдзе: нашы прозвішчы ў народзе
Не згубяцца — перажывуць гады.
Ты слухаеш мяне?

Зося

Расказвай, Вера...

Вера

Згадаліся мне сёння — рэчка, лес...
Маё дзяцінства...
Ранняю вясною
Падснежнікі пяшчотныя цвітуць...
Прыпала столькі мне любімых кветак,
Блакітных, як і неба, і зямля...
Падснежнікі, падснежнікі...

Грукаюць, адчыняюцца дзверы.
З'яўляецца Рэкша.

Рэкша

На выхад!..
Карнілава... Засько...

Вера

Бывай, жыццё...
Бывай, мая сяброўка...
Мы праўдзе паслужылі да канца!

Харужая і Панкова выходзяць.

У зале ўскрыльвае музыка нашага Сёння. І на яе фоне гучаць словы Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР:

«За актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай дзейнасці і праяўлены гераізм у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у гады Вялікай Айчыннай вайны прысвоіць пасмяротна званне Героя Савецкага Саюза Харужай Веры Захараўне...»

А музыка ўсё гучыць і гучыць. Вярэдзіць памяць. Вярэдзіць сэрца.

# Змест

**Лукша В.**

Л 84 Агонь і попел: Драм. паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1989.— 158 с.

ISBN 5-340-00199-7.

Лукша В. Огонь и пепел: Драм. поэмы.

Новы зборнік Валянціна Лукшы склалі дзве драматычныя паэмы-хронікі. Першая «Агонь і попел» прысвечана легендарнаму герою грамадзянскай вайны, нашаму земляку У. М. Азіну.

Другая — «Падснежнікі для Веры» — слаўнай дачцэ беларускага народа, Герою Савецкага Саюза В. З. Харужай.

У творах паэта раскрываюцца вобразы непахісных камуністаў-ленінцаў, іх светлыя мары пра шчасце народа, іх вера ў росквіт справядлівасці і дабра.

Л $\frac{4702120202—004}{М 302(03)-89}$ 54-89 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

Лукша Валентин Антонович

**ОГОНЬ И ПЕПЕЛ**

Драматические поэмы

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Лукша Валянцін Антонавіч

**АГОНЬ І ПОПЕЛ**

Драматычныя паэмы

Рэдактар Р. М. Яўсееў
Мастак В. Г. Паўлавец
Мастацкі рэдактар А. М. Малышава
Тэхнічны рэдактар Л. М. Шлапо
Карэктар К. У. Дзмітрыенка

ІБ № 3040

Здадзена ў набор 6.06.88. Падп. да друку 11.10.88. АТ 09702. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 5,85. Ум. фарб.-адб. 6,14. Ул.-выд. арк. 5,71. Тыраж 4400 экз. Зак. 1523. Цана 85 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

